ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 13 (1507) ГОД XXX БЕЛАСТОК 31 САКАВІКА 1985 г. ЦАНА 8 зл.



У лес па здароўе. Фота Я. Целушэцкага.

# БЫЦЬ РАДНЫМ

Чарговая сесія Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку. Радныя разглядалі ў асноўным дзве праблемы:

— Дзейнасць камунальнай гаспадаркі і ацяплення;

— Выкананне капіталаўкладанняў у галіне аховы здароўя і грамадскай апекі.

Радныя загадзя атрымалі даволі дакладныя інфармацыі аб стане і патрэбах грамадзян у гэтых галінах нашага жыцця.

Камунальная гаспадарка — гэта ўсё тое, што адносіцца да бытавога абслугоўвання насельніцтва. Паняцце такое глыбокае, як мяшок без дна і патрэбы ў гэтай галіне таксама бяздонныя. Гаварыў аб іх намеснік ваяводы Леапольд Рыбакевіч. Пачаў ад зімы што зацягнулася ў гэтым годзе, як рэдка калі і сваёй вастрынёю даволі моцна надакучыла жыхарам litарадоў і вёсак. Праявіліся ўсе занядбанні, асабліва ў пастаноўцы цяпла жыхарам гарадскіх „блокаў“

Для паправы гэтага становішча неабходна было б ужо зараз пачаць пабудову ў Беластоку трэцяй электраэнергетычнай станцыі. На жаль, міністэрства, якому падпарадкавана камунальная гаспадарка, таргуецца за грошы з міністэрствам энергетыкі, а людзі мерзнуць.

Калі б і было ўдосталь гэтага цяпла, дык трэба яшчэ нечым даставіць яго ў кватэры Значыць, неабходныя розныя трубы, якіх няма, і рознае абсталяванне, якога таксама не хапае.

Камунальная гаспадарка — гэта таксама пастаўка вады, газу, пабудова вуліц і арганізацыя гарадскога пасажырскага транспарту. Кожная з гэтых праяў нашай штодзённшчыны патрабуе ўвагі. Тут толькі адзначу, што радныя з асаблівым клопатам аднесліся да пастаўкі газу. Вядома, што ў краіне здарылася некалькі трагічных выпадкаў па прычыне няспраўнага газапастаўчага абсталявання. Патрэбны больш дбайны кантроль газавай сеткі. Трэба мяняць устарэлае абсталяванне. Толькі дзеля гэтага не хапае грошай і матэрыялаў.

Гэтая праблема ў асноўным адносіцца да Беластока бо толькі гэты горад мае цэнтралізаваную пастаўку газу. Жыхары іншых гарадоў і вёсак пажадалі б больш спраўнай пастаўкі газу ў бутлях. А тут адну толькі бутлю для газу зараз купіць — гэта такое рэдкае шчасце, як выйгрыш у „таталотка“.

**Вада.** Зноў цэлы комплекс нявырашаных спраў — і ў гарадах і ў вёсках. Без пастаўкі вады з вадасховішча на Нарве Беласток хутка задыхнецца ад засухі. Але і за межамі гэтага горада, у многіх мястэчках і вёсках вада раўняецца магчымасці жыцця. Калодзежы павысыхалі, рэчкі і ручайкі, а таксама многія меліярацыйныя канавы ў шматзначнай ступені атручаны. Трэба дабірацца да глыбіннай вады. Значыць, трэба будаваць артэзіянскія калодзежы, гідрафорні і водаправоды. На жаль, патрэбы ў многа разоў перавышаюць магчымасці.

(Працяг на стар. 2)

# ПЕРШАЯ ЛАСТАЎКА

Паэма „Новая зямля“ Якуба Коласа ёсць сімвалам беларускай нацыянальнай літаратуры. Яе змест — гэта жыццё беларускага сялянства ў дарэвалюцыйны час. Карысна пазнаёміцца з гэтым шэдэўрам роднай літаратуры.

Вечарам 1 сакавіка б.г. у бельскім клубе БГКТ была такая нагода. Вучні IIа класа з Беларускага ліцэя ў Бельску выступілі з падрыхтаванымі фрагментамі паэмы „Новая зямля“. Кожны з выступаючых прачытаў „свой“ урывак і ад сябе дзяліўся яго зместам. Гаварылася аб розных эпізодах з жыцця беларусаў на аснове зместу. Паказвалася прырода, праца, святкаванне і іншыя праявы жыцця, прадстаўленыя аўтарам. Звярталася ўвага на характар народу і яго імкненні. Сустрэчу вяла настаўніца беларускай мовы ў ліцэі Вера Рышчук. Яна дапаўняла і ўзбагачала выказванні вучняў.

Гэта была першая ластаўка ў культурна-асветнай дзейнасці клуба. Карысна было б, каб надалей адбываліся тут літаратурныя вечары. Неабходна гэта шырэй распаўсюджваць, бо на першы раз прыйшлі толькі вучні з першых класаў Беларускага ліцэя і некалькі іншых асоб. Аб такіх сустрэчах трэба паведамляць як мага большай колькасці членаў Беларускага таварыства, а таксама школьнай моладзі. У бельскім клубе прадбачваюцца вечары ў кожную пятніцу. Літаратурная творчасць на роднай мове дасюль недаацэньваецца ў нашым асяроддзі, а яна заслугоўвае на тое, каб пазнаёміцца з ёю бліжэй. У Бельску ёсць многа людзей, якія пры гэтым могуць дапамагчы: настаўнікі беларускай мовы, члены літаратурнай секцыі „Белавежа“ і іншыя любіцелі роднай літаратуры.

**Ян Мордань**




### ТУМАН ГАДОЎ

Туман гадоў на дне душы гусцее,
З таго саткацца ўрэшце мусіць змрок.
Нібыта позна скошаны мурог,
Зніцелі цені.

Як за лясамі, недзе за гадамі
Гучыць забыта голас маладны,
Якому перайсці брады жуды
Не загадалі.

І разумееш кожны рух і порух
Сваіх равесніц —
Ранішніх дуброў,
Дзе ты гнязда спагады не спароў,
Дзе страх — у норах.

І разумееш зерня нецярпенне
На волю выйсці,
Рунню прарасці, —
Як ні круці,
А да тваёй куцці
Прыйсці паспее...

**Рыгор Барадулін**

НА МЯЖЫ

# АБ НЯВЫКАРЫСТАНЫХ ШАНЦАХ (III)

Ва ўсіх галінах гаспадаркі і адміністрацыі Народнай Польшчы працуюць беларусы. Працуюць як радавыя чорнарабочыя, як сярэдні адміністрацыйны персанал, або як высокапастаўленыя кіраўнікі, загадчыкі, дырэктары. Многія займаюць высокія пазіцыі ў міліцыі, войску, у медыцыне, у навуковых установах. Не мала беларусаў з'яўляецца раднымі. Не ведаю дакладна, колькі, але думаю, што каля дзесяці беларусаў у гісторыі Народнай Польшчы было пасламі ў Сейм.

Зразумела, што ў такой сітуацыі гаварыць аб дыскрымінацыі беларусаў значыла б бессаромна ілгаць. Канстытуцыя Народнай Польшчы, кіруючыя дзяржаўныя органы ў штодзённым жыцці рэалізуюць прынцып роўнасці ўсіх грамадзян незалежна ад іх нацыянальнасці, веравызнання.

Усім вядома, што абавязкам кожнага чалавека, які выбіўся, які зрабіў кар'еру, і асабліва таго, які як прадстаўнік насельніцтва выбраны ў такі ці іншы орган радаў ці ў Сейм, ёсць дзейнічаць у карысць той грамадскасці, якая яго выбрала і якую ён у дзяржаўных органах прадстаўляе.

У такой сітуацыі кожны беларус — радны ці пасол — мае абавязак дзейнічаць у карысць нацыянальнай меншасці. Гэта значыць цікавіцца і займацца справамі сацыяльнымі і эканамічнымі гэтай меншасці.

Дарэчы, аб беларускіх паслах можам гаварыць толькі ў часе мінулым. Справа ў тым, што геркаўская экіпа, кіруючыся тэзісам аб аднанацыянальным характары грамадства, не лічыла патрэбным выбіраць беларусаў у Сейм. Таму ў апошняй кадэнцыі іх у гэтым найважнейшым органе няма.

Вяртаючыся да абавязкаў радных і паслоў, варта падкрэсліць, што, мабыць, усе яны ў сваёй дзейнасці сацыяльнымі і эканамічнымі праблемамі займаліся салідна. Але ці радныя-беларусы і паслы-беларусы могуць абмяжоўвацца выключна дзейнасцю сацыяльнай, эканамічнай і агульнакультурнай? На маю думку, так падыходзіць да справы абавязкаў беларускіх прадстаўнікоў ва ўстаўадаўчых органах, дык значыць ставіць усю праблему не на нагах, а на галаве. Галоўная мэта беларусаў-радных і беларусаў-паслоў заключаецца ў дбайнасці аб беларускай культуры, аб беларускай мове, аб беларускай асвеце, аб беларускіх традыцыях, аб беларускай свядомасці і беларускіх пачуццях. І думаецца мне, што якраз такое пытанне трэба было б паставіць усім былым паслам, былым і актуальным радным. Пытанне простае: як вы служылі шырока трактаванай беларускай справе? У істоце можна такое пытанне і не ставіць. Справа ў тым, што значная большасць нашых радных і паслоў гэтай справы ніколі на публічным форуме не ставіла і не кранала. І думаю, што ніводзін з іх не пасмее сказаць, што яму нехта забараняў або забараняе гаварыць аб беларускіх справах. Такіх забарон не было і няма. З гэтага вынікае, што іх маўчанне было вынікам не нейкай там дыскрымінацыі, а вынікам тыповай для беларусаў пасіўнасці.

(Працяг на стар. 5)

# БЫЦЬ РАДНЫМ

(Працяг са стар. 1)

Каб хаця крыху праясніць гэты даволі сумны вобраз, адзначу, што важным здабыткам камунальнай гаспадаркі ў ваяводстве з'яўляецца ўвядзенне рэгулярнага гарадскога пасажырскага транспарту ў галоўных гарадах Беласточчыны. Гайнаўка ўжо некалькі гадоў карыстаецца сваім „эмпэкам", а ад мінулага года можна катацца гарадскімі аўтобусамі таксама і па Бельску, Сямяцічах і Саколцы. Жыць там стала крыху лягчэй, бо гэтыя гарады вельмі раскінуты.

Дзяржаўная адміністрацыя зарэкамендавала свае спосабы развязкі складаных праблем камунальнай гаспадаркі ў выглядзе праграмы дзеяння на гады 1985-90 і радныя — пасля бурлівых спрэчак — адобрылі гэтую праграму, аб чым пастараюся напісаць асобна.

А цяпер аб ажыццяўленні інвестыцыйных патрэб у галіне аховы здароўя і грамадскай апекі. Радныя не праяўлялі тут асаблівых прэтэнзій. З паясненняў прадстаўнікоў адміністрацыі вынікала, што пераважна атрымоўваюць пабудовы гмінных амбулаторыяў. Ёсць такія патрэбы ў Сухаволі, Крынках, Нараўцы, Орлі і ў іншых цэнтрах. У другіх мясцовасцях будаваць памяшканні для службы здароўя можна толькі шляхам грамадскіх пачынаў. Іншых магчымасцей пакуль што няма.

Дарэчы, нават планавае будаўніцтва не можа пераадолець цяжкасцей з атрыманнем праектаў. Падрыхтоўка праекта нейкай інвестыцыі ў галіне аховы здароўя зацягваецца да звыш двух гадоў. Ваяводская адміністрацыя на ахове здароўя вырашыла заснаваць спецыялістычнае бюро для праектавання ўласных будынкаў.

Радныя прынялі да ведама прадстаўленую ім інфармацыю аб праблемах аховы здароўя і грамадскай апекі ў ваяводстве. Толькі адзін старэйшы радны з гміны Боцькі рашуча патрабаваў ад улад падтрымаць грамадскі пачын у яго роднай вёсцы, дзе людзі рашылі пабудаваць асяродак здароўя.

А цяпер аб інтэрпеляцыях, у якіх найбольш наглядна праявілася роля раднага.

Радная Сітніцкая з Лап гаварыла аб недахопе лекаў, нават у бальніцах, і аб нізкай якасці спажывецкіх прадуктаў.

Валянціна Ракоўская з Нарвы патрабавала, каб прымусіць раённае прадпрыемства па пабудове дарог да рамонту вуліцы Міцкевіча ў Нарве. Рамонт яе ўзвалілі на бедную касу гміннага бюджэту.

Чэслаў Падковіч з Беластока звярнуў увагу на небяспеку ад устарэлага газапастаўчага абсталявання. Па гэтай прычыне амаль не дайшло да вялікай трагедыі на вул. Астроўскага, дзе газ выдзяляўся з няшчыльных трубак.

Станіслаў Верпахоўскі з Клеасіна патрабаваў, каб будынак, які зараз займае прадпрыемства „Штука польска" як мага хутчэй. згодна з абяцаннем ваяводы, перадаць на патрэбы прадшколля.

Мечыслаў Дораш з Беластока звяртаў увагу на растрату спажывецкіх прадуктаў і на цеснату ў пачатковай школе на пасёлку „Беласточак", а таксама на клопаты з ацяпленнем памяшканняў.

Таіса Кацэйка, настаўніца з Орлі, патрабавала неадкладнай інтэрвенцыі Ваяводскага ўпраўлення, каб увесці ў план будову вялікай цагельні ў Орлі. Орля стаіць на гліне, а ў арлянскую кафлярню гліну возяць з Беластока.

Антон Кіроўскі з гміны Драгічын прасіў лекара для амбулаторыі ў Следзянове, дзе ўжо сёмы год стаіць пусты асяродак здароўя.

Са сваімі інтэрпеляцыямі выступалі яшчэ радныя: Мар'ян Улашчык з Кузніцы, Ян Каліноўскі з Сямяціч, Крыстына Яніцкая з Гайнаўкі і Мечыслаў Гайдук з гміны Нараўка.

На інтэрпеляцыі адказваў ваявода Казімір Дунай. Паабяцаў, што ўсе справы будуць дбайна і з увагай разгледжаны, а ўсе радныя атрымаюць дакладныя адказы.

Сесія даказала, што роля раднага ў гэтай кадэнцыі непамерна ўзрасла.

**Віктар Рудчык**

НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН

# ПАДЗЕННЕ ПАНА БАРЦЭЛЯ

Такой каверзы ад фартуны пан Барцэль не чакаў. Раней яна какетліва ўсміхалася яму нават тады, калі ён, бязвусы блазнюк, прама з атрада „гітлерюгенда" зухавата сеў за штурвал самалёта-разведчыка і апынуўся на Усходнім фронце, дзе ён адразу ж усёк: каб пазбегнуць катастрофы ў схватцы з савецкімі знішчальнікамі, трэба рабіць вельмі крытыя віражы.

Калі ж поўным крахам закончыўся „бліц-крыг", ас Барцэль па старой звычцы робіць адзін віраж за другім. Спачатку з адвакацкага крэсла пераляцае ва ўрадавае зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія. Перавёў там дух, віраж — і апыніцца ўжо ў бундэстагу. Садзіцца ў крэсла дэпутата бонскага парламента і туга зацягвае рамяні, каб выпадкова не выкаўзнуцца пры чарговым узлёце.

Новага віражу пан Барцэль чакаў аж чатырнаццаць гадоў. І дачакаўся. Заўважылі і належным чынам ацанілі дэмахрысціяне рэваншысцкі сверб у рэйнскага дэпутата. І вось ужо адзін з вельмі ўдалых віражоў узнёс Райнера Барцэля прама ў крэсла старшыні парламенцкай фракцыі ХДС/ХСС. Былы ас „ястрабам" лунаў у паднябессі, ён навастрыўся зрабіць апошняе „піке" на федэральную ўладу. І раптам — чых-пых. Павіс між небам і зямлёй. Тут да пана Барцэля дайшло, што сігануў ён ужо надта крута ўгору, да таго ж рэзка павярнуў па старой звычцы супраць Усходу. Давялося ісці на „пасадку".

З таго часу лютую злосць затаіў пан Барцэль на ліберальную кааліцыю сацыял-дэмакратаў і свабодных дэмакратаў. Раз за разам кідаўся ён з роззлай вышыні на іх у атаку, пакуль не звёў сілы сапернікаў у бундэстагу да пэўнай раўнавагі. Здавалася, фартуна зноў усміхаецца яму. Але выбары ў бундэстаг закончыліся поўным правалам для блока ХДС/ХСС.

Цяпер пан Барцэль адчуваў за спінай дыханне сваіх сапернікаў: прэм'ер-міністраў дзвюх зямель — Баварыі і Рэйнлад-Пфальц — Йозефа Штрауса і Гельмута Коля. Якія толькі „петлі" не віў Райнер Барцэль, тыя сядзелі ў яго на хвасце. І ён вырашае даць бой. У інтэрв'ю газеце „Райнішэ пост" Барцэль катэгарычна заявіў, што не адступіць ні на крок ад сваіх кіруючых пазіцый — партыйнага лідэра ХДС і старшыні фракцыі ХДС/ХСС у бундэстагу. Адразу ж рэхам у часопісе „Штэрн" аддаецца: „Досыць! У адных руках аж дзве пасады — занадта многа!" Баварскі ультра Йозеф Штраус пнецца вырваць адну з іх для сябе. А другую таксама спрабуюць адабраць.

Пан Барцэль нутром адчуў, што віражы яго скончыліся, а саперпікі па-ранейшаму вісяць на хвасце. Тут ён хацеў ужо і выкінуць белы флаг, як раптам з канцэрна фліка паступіла сакрэтная дэпеша: уступі пасаду партыйнага лідэра ХДС Гельмуту Колю — адхопіш мільён марак. Райнер Барцэль нядоўга ўпіраўся. Ён зрабіў поўны разварот на 180 градусаў і апусціўся ў такое ж самае адвакацкае крэсла, з якога калісь пачынаў свой узлёт.

Пацяклі бестурботныя гады, непрыкметна набліжалася бязбедная старасць. І тут нечакана ў Боне дарваліся да ўлады тыя, каму ён за хабар уступіў высокую пасаду. Сёй-той успомніў былога аматара крутых віражоў. Праз пэўны час выцягнулі „ястрабы" пана Барцэля з глухой правінцыі ў сталіцу, пасадзілі ў крэсла старшыні бундэстага. Усё яму было тут знаёма і звыкла. Ён, як і раней, упіваўся ўладай і славаю. Толькі аднаго пан Барцэль не чакаў і не мог уявіць, што на гэты раз на хвасце ў яго вісеў ужо часопіс „Шпігель", які разблытваў даўнюю аферу Фліка...

**В. Р.**

## ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

# ВЕРА

Вялікае каханне ў нас было, сыночак нарадзіўся. Ды ўсю любоў чорт узяў, разышліся мы сваімі дарогамі, адна я з Паўлікам асталася. Як на аліменты падала, то муж прыехаў, пачаў прасіцца: хадзі, Веранька, паедзем у Прусы, пачнём новае жыццё.

Паверыла, сыночка ўзяла, паехалі мы ў Мазуры. А Васька сабака вялікі на баб. Кажу я яму: чаго ты мяне сюды валок, як усё вычаўпаеш? Цягаўся тут з адною, то я ёй надала, Марысю, як прышла па ваду на возера — за лоб і пад ваду. Тады мой міленькі прыдумаў адпомсціць. Гаворыць сваяку: звясці жонку трэба, забіць, утапіць заразу. Прыбягае сваяк да мяне, расказвае, а я яму: што ты, ён цяпер такі добранькі да мяне, Іуда гэты.

А ў нас дроў не было. Хадзілі мы пад цагельню красці драбінкі, на дровы. Злавіў нас сторож, хацеў весці ў міліцыю, прасілся, пусціў. Тады я кажу мужу:

— Васька, не сорам табе гэта, каб твая жонка хадзіла красці?

— Вера, коціку, паедзем лодкай у лес, Паўліка вазьмі, цеплыня, няхай дзіця падыхае. Бачыў я ў лесе, за каленам (возера каленам выгіналася пад лес) сухастоі.

Адплылі мы ў возера з кіламетр. Муж аглянуўся, міна яго спала, пабялеў. Кінуў вёслы на ваду, закалаціў лодкаю, набраў вады, а сам скочыў і паплыў. Я дзіця — між каленяў, схапіла дошку, на якой мы сядзелі.

— Аяяй, — завішчала, а хтось на беразе адазваўся, але было гэта толькі рэха.

Давай я ваду выбоўтваць з лодкі, дошкаю, Паўлікавай шапачкай. Я на Нарве навучылася плаваць, часта лодкаю сена вазілі... А сыночак мой, яму паўтара годзіка, шчабеча... Выліла я трохі вады, дошкаю вяслую, пот вочы залівае.

Забілася я лодкаю ў чарот. цягну за трысцё — а сцябліны доўгія, не канчаюцца, значыцца, глыбока тут... Да берага — метраў два, гразка, бераг круты. Пасадзіла я сыночка на галаву, кажу: Паўлічку, трымайся маме за коскі, а маленькі шчабеча, смяецца. Я трымаюся за лодку адною рукою, а яна цяжэзная, другою ямкі грабу ў муле, туды і ногі стаўляю.

Вылезла я на бераг, аж сіняя, цэлая ў мокрым пяску. Як я малога не валакла — і на галаве, і на шыі, пад пахай, перад сабой, а ўсё аглядаюся — здаецца, татка нас гоніць.

Муж тры дні хаваўся. Нашу справу акрэслілі „сямейнай сваркай". Мама напісала мне: дочанька, вяртайся, многа ты выцерпела, казала я табе, не едзь да яго. І я вярнулася на Беласточчыну.

Ад паўтара годзіка сыночка сама гадавала. Забілі Паўліка, як яму было васемнаццаць з палавінаю. Бацька прыехаў на пахаванне.

— Паглядзі, Васенька, — кажу яму. — Семнаццаць год я яго гадавала, сцерагла, і такога мне дуба смерць забрала. Чаму ты нас тады разам не ўтапіў?

**Міра Лукша**



Фота Віктара Волкава.

# ЖЫЦЦЁ ЯГО, ЯК ЛЁС НАШ

У прадвеснае адлігоцце чытаў я кніжку Арсеня Ліса *„Вечны вандроўнік"* (ласкава пазычаную мне Аляксандрай Бергманіхай). У гэтае сумнае надвор'е сутыкнуўся я, такім чынам, з яшчэ адной, не меней сумотнай гісторыяй з мінулага нацыянальнай культуры — з вопісам жыцця і творчасці Язэпа Драздовіча, мастака блізкага велічы, каб не тая наша слынная на ўсю Еўропу галытва ды басотнасць. Таленты заядалі нам недавучанасць ды голад, голад ды недавучанасць! Жаль тым больш, што нараджаюцца яны не па жаданню нейкага грамадскага веча ці па ўказцы ўлады, але ёсць шчаслівым зарункам лёсу адзін раз на сто галоў цэламу народу. Гэта так, як Расія ўжо не будзе мець другога Пушкіна, вялікага пана, праўда, але і вялікага паэта, як і ў Беларусі не паўторыцца Уладзімір Караткевіч, пра якога дабра сказаць словамі выдатнага Быкава: *„На Беларусі ніколі не будзе гэткага мастака, а ў народзе — такога сына"*.

Драздовіч. Хоць і жыў ён у эпоху нашых бацькоў і дакранаўся сваёй боскай рукою незвычайнага мастака да незабыўнай *„Маланкі"*, якую афармляў, — гэтак жа мала пра яго мы ведаем, як і пра легіён іншых творцаў беларусчыны. Нават няма ўпэўненасці ў тым, калі ён пакінуў назаўсёды сваю зямную паняверку, адышоў ад нас, жывых, у горычы і самоце (пішуць, што ў 1954 годзе, стаўячы пры даце адначасна запытальны знак). — Народ, які пазбаўлены гістарычнай памяці, застаецца без будучыні. Ён звычайна перастае тады існаваць, робячыся спажываю іншым, *„мясам гісторыі"*, катлетаю ў чужое меню.

Таму столькі ў Язэпа Драздовіча гістарычнага мінулага, замкаў, гарадзішчаў, легендарных гаспадарыняў, волатаў-веліканаў Белай Русі; Вільня, Мінск, Крэва, Гальшаны, Ліда, Навагрудак, Меднікі. І, як быццам не давяраючы фарбам і пэндзлю, узяўся быў ён пісаць раман, каб дасканалей паглыбіцца ў час першабытнай Беларусі, у яе найпершую выяву, вядомую нам сёння як Полацкая зямля; уяўляў сабе Рагнеду і Усяслава Чарадзея.

Ён аддаў усяго сябе Айчыне. Пражыў у няспынным, такім вечным вандраванні, без уласнага дома і сям'і, адзін-адзінюсенькі: хадзіў ад вёскі да вёскі, ад мястэчка да мястэчка, з горада ў горад, жыў і ў Беластоку (аб чым потым). Хто прыняў яго на

(Працяг на стар. 4)

## Легенды нашай зямлі

### ПРЫГОДА САХАРКА

У Відаве каля Бельска жыў гаспадар Сахарко. Калі ён быў малады любіў загуляць. І вось, што я пачуў ад Сахаркавай жонкі Марцэлі. Бажылася, што гаворыць чыстую праўду.

А было так. Сахарко зышоўся аднойчы ў карчме, што стаяла пасярэдзіне вёскі з сваім кумам Данілам. Пачалі гутарку пра сёе-тое і згаварыліся пра грошы.

— Ведаеш, куме, — кажа Сахарко, — дзе нам грошай узяць?

— А дзе? — пацікавіўся Даніла.

— У панскім лесе. Учора я паглядзеў, на Шэўлях каля балота дручкі ляжаць, — выясніў Сахарко.

— Ідзі, запражы каня, ды едзь да дарогі ў Шэўлях, — паспешліва параіў кум.

Як сказалі, так і зрабілі. Сахарко запрог каня, паехалі. Прыехаўшы, налажылі на воз жэрдак і давай вяртацца. Не ад'ехалі далёка, калі конь пачаў тапіцца ў балоце, ледзь ногі выцягваў. Раптам убачылі чалавека — вышаў на дарогу і стаіць. Падумалі, што пан іх прыпільнаваў. Але той чалавек адазваўся:

— Куды гэта хлопцы, едзеце?

— У Відава, — адказалі.

— Гэ-гэ, вы заблудзілі.

— Не можа быць, мы тут кожную хвою знаем.

— А прыглядзьцеся добра, вы аднак заблудзілі.

Мужыкі разглянуліся і здалося ім, што і сапраўды месца незнаёмае.

— Праўда ваша, пане, — сказалі, — але што мы цяпер зробім? Мо вы выведзеце нас на добрую дарогу?

— Я вас аж да Відава завяду, бо і сам туды кіруюся. Завярніцеся і едзьце за мною.

Мужыкі, падзякаваўшы, паехалі за незнаёмым.

Як жа ж пачаў ён іх вадзіць па карчах, па карэннях, па балоце...

Усё ім памяшалася, закруцілася. І невядома, колькі часу яшчэ ездзілі б па бездарожжы, але ўспомнілі Богу маліцца і ў той жа момант незнаёмы пачаў плыць па балоце, ды як не зарагоча, ды і ў балота тое нырнуў, аж пырскі паляцелі навакал.

Мужыкі апамяталіся і, змучаныя, чуць назаўтра дадому прыбіліся.

**Андрэй Гаўрылюк**

### БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР НА 1985 ГОД

**Урэшце выйшаў з друку Беларускі каляндар на 1985 год. Набыць яго можна ў аддзелах, клубах і гуртках БГКТ, а таксама ў школах, дзе навучаецца беларуская мова, і ў нашай рэдакцыі. ГП БГКТ высылае таксама календары па пошце за залічэннем паштовым. У апошнім выпадку заказы трэба кіраваць на адрас: ZG BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11.**

## АДГАЛОСКІ

# СУМНА

Ад артыкула Г. Мароза „Дзе вы, сябры карэспандэнты“ мінула ўжо болей паўгода („Ніва“ № 24/84), але ў маёй свядомасці ён адзываецца, як пераклічка загінуўшых, на шчасце, без барабаннай дробі.

Што сталася, што некаторыя карэспандэнты перасталі пісаць? Я не сацыёлаг і цяжка мне гадаць, але адсутнасць некаторых я вельмі заўважаю.

Чакаў адгалосак, але былі скупыя. Адазваўся Э. Вайсковіч з амаль падобным пытаннем: „Дзе падзелася наша радасць карэспандэнта?“. А была нават адгалоска, дзе аўтар цешыўся, што быццам і добра, што перасталі пісаць, так і трэба. Ці сапраўды, так трэба?

„Ніву“ чытае ў вялікім працэнце вёска і адсутнасць вясковых карэспандэнтаў яна адчула.

Нехта пісаў: „Для мяне „Ніва“ без Дзядзькі Кваса — гэта маладая без вэлюма“. Я сам заўсёды пачынаў чытаць „Ніву“ ад „Палоскі Дзядзькі Кваса“ і сёння яе адсутнасць вельмі відаць. Дзядзька Квас — гэта самародак і свяціўся ён на „ніўскім“ фірмаменце зоркаю першай якасці. Дзяцінства, юнацтва і ўсё жыццё гэтага чалавека прайшло ў войнах, рэвалюцыях, контррэвалюцыях, у цяжкой барацьбе за існаванне. Гэта быў яго універсітэт. Адукаваныя, закончыўшыя вышэйшыя школы, перад такімі людзьмі павінны схіліць галаву. Веру, што перастаў ён пісаць, не спалохаўшыся крытыкі, а з-за старасці і дрэннага здароўя. І я вельмі ўдзячны „Ніве“, што годна адзначыла яго адыход з „Нівы“.

А сябра М. Панфілюк? Няўжо прычынай непісання сталася няшчасце з яго пальцамі? Ведаючы яго працавітасць і энергію, веру, што можа ён пісаць і скалечанаю рукою. Чаму ж не піша?

Калі хочам, каб „Ніва“ была цікавая і каб яе чыталі, трэба даваць многа матэрыялаў, каб чытач меў з чаго выбраць. Таму не станем крыўдаваць, калі рэдакцыя чаго не надрукуе. Веру, што ўсё вартаснае будзе друкавацца.

Некаторыя з нас моцна гняўлівыя. Апавяданне Сука „Споведзь“ нарабіла многа шуму. Але, беручы пад увагу агульную вартасць, то няма там да чаго прычапіцца. Болей бы такіх апавяданняў прыдалося „Ніве“. Калі апавяданне Сука не з'яўляецца літаратурнай фікцыяй, а часткаю яго біяграфіі, то аўтар — чалавек вялікай маралі і літаратурны талент. А крыху парнаграфіі ў яго „Споведзі“ добра ўплывае на вартасць напісанага.

Часта праглядаю „Ніву“ з мінулых гадоў і бачу розніцу на некарысць цяперашняй. Даўнейшая — фарматам была большая, змястоўнейшая і была прыгажэйшай па графічнаму афармленню. А ўжо сёмая старонка (колішняя), як той „Станулевічаў луг“, красавалася дробнымі прыгожымі інфармацыямі вясковых карэспандэнтаў.

Праглядаю і думаю. Сёння маем шматлікую высокаадукаваную інтэлігенцыю, студэнтаў, навукоўцаў, так многа і прыгожа пішацца аб нацыянальнай свядомасці беларусаў, нацыянальнай культуры, аб спрыяльных умовах для развіцця гэтай свядомасці і гэтай культуры, а наш прэсавы орган, наш дарадчык, наш інфарматар, а галоўнае наш добры прыяцель і адзіны тыднёвік „Ніва“ за 30 гадоў свайго існавання ледзь пераўтварыўся з тыднёвіка на 8 старонак у тыднёвік на 12 старонак і здаецца тыднёвікам застанецца назаўсёды. Трохі сумна, сябры.

Дзед Кастусь





Бельск Падляшскі зімою. Домік на ўскраіне. Фота М. Гайдука.

# БЕЛЬСКІЯ АГЛЯДЫ

### САВЕЦКАЯ ПЕСНЯ...

У нядзелю 3 сакавіка б.г. многія з жыхароў Бельска хацелі, каб зала Бельскага дома культуры была большай. Не ўсе ахвотныя маглі ў ёй памясціцца на раённых элімінацыях агляду савецкай песні.

Конкурсны канцэрт адкрыў дырэктар Дома культуры Сяргей Лукашук. Бельск традыцыйна славіцца высокім узроўнем песенных аглядаў. Таксама было і сёлета. Выступіла больш дзесяці калектываў і салістаў.

Сярод гледачоў быў праведзены конкурс „Узнагарода публікі“. Атрымаў яе сімпатычны дуэт: Анна Чыжак і Раман Пахвіцэвіч з „Эльвы“. Вельмі спадабаліся таксама песні ў выкананні дзявочага трыо з Беларускага ліцэя, саліста Васіля Нігерэвіча, калектыву „Дзявочыя ноткі“ і вучаніцы Элі Маслоўскай.

Сярод салістаў першае месца прызнана вучаніцы Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Т. Касцюшкі ў Бельску Юстыне Кардзюкевіч. Другое месца падзялілі: Эва Урублеўская і Васіль Нігерэвіч, абое з „Эльвы“, а трэцяе месца падзялілі: Альжбета Нікіцюк з Эканамічнага ліцэя ў Бельску і Аляксандр Раманюк з Дубяжына. Найлепшым калектывам было дзявочае трыо з Беларускага ліцэя ў складзе: Багуслава Красоўская, Іялянта Зіневіч і Дарота Касцючук. Другое месца занялі „Дзявочыя ноткі“. Трэцяе месца занялі любімцы публікі — дуэт з „Эльвы“.

Раённыя элімінацыі ў Бельску былі добра падрыхтаваны. Канферанс'е цікава вёў працаўнік Бельскага дома культуры Анджэй Длужэўскі. Музычным кансультантам і апекуном многіх удзельнікаў быў музычны інструктар Лявон Кудзін. Дэкарацыя была скромнай, але эстэтычнай і выразнай.

Найбольш паспяхова выступілі вучаніцы Беларускага ліцэя, якіх падрыхтаваў іх настаўнік, добра вядомы нам Сяргей Лукашук. Таксама спевакі з прадпрыемства „Эльва“ паказалі сябе дасканала.

Варта падкрэсліць, што на прадпрыемстве „Эльва“ адбыліся раней элімінацыі конкурсу „Савецкая песня-85“. Эфекты такой ініцыятыўнасці, як відаць, вельмі добрыя. Варта, каб у наступных гадах іншыя ўзялі з іх прыклад.

### ...І БЕЛАРУСКАЯ

Адначасова праводзіўся раённы агляд „Беларуская песня-85“. Шкада, што быў ён спалучаны з „Савецкай песняй“. Трэба памятаць, што „беларускі“ агляд арганізуецца БГКТ і мае ён іншую спецыфіку і характар. Пры такім спалучэнні ён быў мала заўважаны і, на жаль, скромны. Ці ў Бельску няма магчымасцей правесці яго асобна і больш эфектыўна? Прыкладам можа

(Працяг на стар. 6)

# ЖЫЦЦЁ ЯГО, ЯК ЛЁС НАШ

(Працяг са стар. 3)

начлег, не пашкадаваў яму кавалка хлеба, і хто быў яшчэ настолькі добры, што расказаў яму байку даўнюю або і песню бабчыну праспяваў, і то разоў некалькі дзеля запісу, дык усюды там пакідаў ён нешта сваё — малюнак які або і партрэцік. Шчодра сыпаў сваім талентам, бы колас тым зернем залатым у лета жніўнае. Можа, і не надарэмна, але праўда ёсць такая: амаль нічога не ўцалела ягонае, што расцярушана было ім па людскіх руках, ні малюнкі тыя ані пісанне літарнае. А ўцалела ягонае, да найменшай паперкі, што пакінуў быў нейкай установе, музею, бібліятэцы, або інтэлігентнаму чалавеку. Арсень Ліс, адбываючы свае вандраванні слядамі Драздовіча, якраз і чуе адказы на свае роспыты: ага, жыў у нас такі, і карцінку ад яго мы мелі, вось, на той сцяне, і сшыткі нейкія забыўся ў нас, вунь, пад століо запхнутыя ляжалі, але дзе ўсё тое цяпер, я не ведаю, папрападала кудысьці, дзеці павыносілі-пазатрачвалі, і сам я трохі курыў у паперцах тых ягоных...

Ну, і аб чым жа можна далей гаварыць? — Нешта падобнае перажыў мой беластоцкі знаёмец, Антось Мірановіч, гісторык: у Чыжах, так сказаць, намацаў ён летась старабеларускі царкоўны спеўнік, цалкам унікальны, якім была... заткнута дзірка ў даху (бо, на сваё няшчасце ці шчасце, меў моцную скураную вокладку, быў цвёрды і шырокі, бы чарапіца!).

Хтосьці падумае: цёмныя, беспісьменныя, дык і няма дзіва, што яны так трактуюць усенька, што не ёсць вынікам мазалёў на далонях. Не, аднак! Не такія яны былі, і не беспісьменнымі цяпер ёсць. Некаторыя з іх, як у тых Чыжах, могуць пахваліцца перад табою зусім саліднай адукацыяй. У чым жа тады справа? А вось: што беларускае, што роднае, не выклікае ў іх пачуццяў пашаны! Гэта хвароба падточвае нас здаўна, калі ўспомніць, як пасля смерці бацькі нашай нацыянальнай літаратуры, Францішка Багушэвіча, яго сям'я заядла спаліла-развеяла архіў пісьменніка, а людзей, што прыходзілі пакланіцца ягонай памяці, ардынарна выганяла прэч за парог!

Язэп Драздовіч пажыў крыху ў Беластоку, гэта з усёй верагоднасцю ўстанавіў менавіта Арсень Ліс. Не захаваліся звесткі, у каго ён стаў на кватэру і ў якім квартале горада, шэрага, мястэчковага. Вядома, што ў 1933 годзе, на зыходзе зімы запрасіла яго сюды беластоцкае Таварыства беларускай школы маляваць дэкарацыі для спек-

## ІМ ПАТРЭБНА НАША ДАПАМОГА

У гміне Белавежа грамадскай апекай ахоплена каля 250 чалавек. У 1984 г. выдаткавана на іх каля 1,7 мільёна злотых. План грамадскай дапамогі рэалізуецца на падставе раней апрацаванага і пастаянна актуалізаванага балансу патрэб. У гміне дзейнічае таксама калектыў да спраў кардынацыі грамадскай дапамогі. Ён накідае задачы ў гэтым напрамку для паасобных устаноў, прадпрыемстваў і грамадскіх арганізацый.

У гміне ёсць шмат людзей, якія патрабуюць дапамогі ў сферы дамашніх паслуг. На жаль, з прычыны недахопу сясцёр ПШК і дамашніх апякунак не ўсе яны такую дапамогу атрымліваюць. Дамашнія паслугі ў мінулым годзе давалі 2 сястры ПЦК і 5 апякунак. Абслугоўвалі яны 12 чалавек.

Гміннае праўленне Польскага камітэта грамадскай дапамогі пастаянна дае дары. Напрыклад, у 1984 г. перададзена найбольш патрабуючым 765 кг рысу і 156 бляшанак алею. Вялікую дапамогу аказваюць таксама гмінныя ўстановы і прадпрыемствы. Паляпшаюць яны сваім падапечным жыллёвыя ўмовы, падрыхтоўваюць дровы на зіму і г.д. Вылучаецца ў гэтым асабліва надлясніцтва Белавежа і Комплекс прафесіянальных школ МЛіПД.

Згодна з ранейшай задумай, у Белавежы ў найбліжэйшыя гады прыступяць да рамонту і мадэрнізацыі будынкаў па Дзяржаўным доме дзіцяці з прызначэннем на Дом грамадскай апекі. Разбудова будынкаў мела ўжо рэалізавацца ў гадах 1983-85, а недахоп сродкаў не дазволіў распачаць працу. Дагэтуль выканаңы толькі рамонт. У апошнім часе знойдзены нарэшце выканаўца праектна-каштарыснай дакументацыі, а ЗОЗ у Гайнаўцы, якому ад 1982 г. падлягаюць будынкі, паралельна апрацоўвае інвестыцыйную праграму.

**П. Байко**

# А ТЫНЕВІЧЫ СПЯВАЮЦЬ!

Пасля смерці Мікалая Сільвеструка, некаторыя тыневічане ўжо пагаварвалі: „тэпэр ужэ нэ поедут співаті тыя спевакі, бо нэма музыканта“. Але знайшоўся музыкант. Гэта Іван Дудзіч з Малых Тыневіч. Працуе ў Гайнаўцы. Штодзень даязджае да працы, а прыехаўшы дахаты, памагае бацькам на гаспадарцы.

Музыкай цікавіцца і іграе ад малых гадоў, мае да гэтага вялікія здольнасці. Ён па музыцы самавук, але стараецца як можа, каб добра зайграць кожную песню. Іван любіць беларускія песні і сваю культуру і ў калектыве яго хваляць.

Тыневіцкія самадзейнікі выступілі ўжо з Іванам 5 разоў. На раённым калядным аглядзе ў Гайнаўцы, на ваяводскім калядным аглядзе ў Есяноўцы, 9 лютага выступілі ў сваім клубе „Рух“ для гасцей, якія прыехалі на конкурс „Найлепшы вясковы клуб „Рух“ 1984 г.“. (Клуб „Рух“ у Тыневічах Вялікіх заваяваў першае месца), 17 лютага выступілі ў Гаўнаўцы на аглядзе беларускай песні і 24 лютага на аглядзе савецкай песні, таксама ў Гайнаўцы.

А цяпер калектыў развучвае ўласную тэатральную сцэнку „Адведкі“ і два польскія скетчы, бо беларускіх няма.

З боку гмінных улад тыневіцкі калектыў не мае крыўды. Калі што папросяць у гміны, там стараюцца памагчы, як трэба. За гэтае ім вялікае дзякуй.

**Н. С.**

### Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

### СКОЛЬ ТЭБЭ ВЫГЛЕДАТІ?..

(веснавая-„огулька“)




Ой, посею лён, ой, посею лён — выростут колопэнькі,
внадятсе пташкі, внадятсе пташкі — шчэ й тые воробэі,
внадятсе пташкі, внадятсе пташкі — шчэ й тые воробэі.
Пуйду, матулю, пуйду, матулю, воробэйкі гоняті.
— Мое дітятко, мое руодное, сколь тэбэ выгледаті?
Мое дітятко, мое руодное, сколь тэбэ выгледаті?
Ой, чы ў таночку, ой, чы ў віеночку, чы між дівонькамі?
Всіе дівонькі йдут, віеночкі нэсут, ты сідіш з бабонькамі.
Всіе дівонькі йдут, віеночкі нэсут, ты сідіш з бабонькамі.

*Ад Уладзіміра Ваўранюка, 1923 года нараджэння, і яго сястры Ніны Ляўчук, 1935 года нараджэння, вёска Тыневічы Вялікія гм. Нарва, запісаў 7 лістапада 1984 г. М Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.*




## АПТЫМІСТ

Усюды чую, што аптымісту лягчэй жыць. Нібы ў яго жыццё прыгажэйшае. Мо так калісь і было. А сёння я хачу быць песімістам, я хачу быць скептыкам, каб не называлі мяне дурнем і разявай.

Днямі паскардзіўся я знаёмаму, што не маю на чым спаць, тапчан, які набыў я ў пару славутага гаспадарчага прысляшэння, разваліўся.

— І не можаш купіць новага? — здзівіўся знаёмы.

— А што, можаш мне памагчы ў гэтым? — у сваю чаргу здзівіўся я.

— Калі ласка. Учора быў у магазіне на Калёвай і бачыў там нейкую мэблю. Але не цікавіўся, бо мне патрэбны кухонны камплект.

— То бываюць і кухонныя?

— Розныя бываюць, толькі трэба трапіць у адпаведны час.

— Дык што, паможаш купіць тапчан?

— Паехалі ў магазін.

І мы паехалі на Калёвую. Заходзім, а там, сапраўды, стаяць тапчаны. І мяккія крэслы. І нейкі камплект рэтра.

— Божа, — кажу, — чаго ж яшчэ хацець? Гэта якраз тая мэбля, якую шукаю. Але чаму яе ніхто не купляе?

— Відаць, дарагая, — адказвае знаёмы.

Пашкадаваў я, што пры сабе не маю 36 тысяч злотых (цана майго шчасця), але знаёмы пацяшае: „Калі не купілі да абеду, то ўжо сёння ніхто не купіць“.

Вясёлы паехаў я дадому, узяў у ПКО грошы і чакаю жонку, пакуль вернецца з працы. А тая прыйшла і есці хоча.

— З голаду не памрэш, паехалі па мэблю, я выбраў прыгожую.

— Ты дастаў мэблю? — жонка смяецца скептычна.

— Няўжо толькі ты ўмееш даставаць? — гаркнуў я і мы паехалі на Калёвую.

У магазіне пру ў касу і паказваю рукой, за які камплект плачу. Касірша вырачыла на мяне сімпатычныя вочы і сказала:

— Эх вы, непапраўныя аптымісты!

Апусціў я сарамліва галаву і мы вярнуліся з пустымі рукамі дадому. У галаве толькі расло рашучае жаданне быць песімістам.

**Васіль Петручук**

такляў (вуліцы Купецкая, Ружанская). *„Ні ракі, ні возера, ні прыгожых узгор'яў ці далінаў“*, — занатоўваў ён, дадаючы, што сяк-так цікавей адно каля палаца Браніцкіх ды ратушы. Уразілі яго велічныя муры і вежы Супраслеўскага сабора, гэтага архітэктурнага цуда з XVI стагоддзя, і ваколле пад Васількавам *„...якія дзіўныя тут сінеючыя далі, колькі красы ў гэтых воддалях з сінявымі сценамі лясоў...“*. Самі ж беластачане — добра апранутыя, нават франтаватыя, але не вельмі каб развітыя (заўважаў ён пра нас, актуальна і па сённяшні дзень). Мясцовае ТБШ ледзь узбірала яму, на працягу некалькіх месяцаў, дванаццаць пяць злотых, якія ён і аддаў на білет, каб уцячы ўрэшце ў сваю старую Вільню! А пакуль рыхтавалі яму нашы дзеячы той дванаццаціпяцізлотавы ганарар, працаваў ён у каменшчыка толькі за тое, што даваў паесці ды логава нанач. А нейкаму Васілю даводзіў да ладу-парадку веснавы агарод за такую ж, як у таго каменячоса, плату! (Дзённікавыя запісы, зробленыя ім у Беластоку, відаць, трохі захаваліся).

І на заканчэнне — факт, празнілівы, бы лёс наш і холад душы нашай: прадчуваючы смерць, — як дапытаўся недзе А. Ліс, — Драздовіч прасіў пляменніцу Ядзю, каб яна ўзяла каня ды паехала ў свет пазбіраць пакінутыя ўсюды ім карціны, партрэты, малюнкі, рэзьбы, запісы...

Праз два пакаленні з'явіліся адкрывальнікі ды паклоннікі яго таленту, якім яшчэ ўдалося сёе-тое выратаваць, зберагчы дзеля беларускага і айчыннага і захапіцца самім Язэпам Драздовічам, жыццё якога, бы сімвал нашага нездзяйснення.

**Сакрат Яновіч**

Арсень Ліс. Вечны вандроўнік, выдавецтва „Юнацтва“, Мінск 1984.



Язэп Драздовіч. Крэва.

(Працяг са стар. 2)

### АБ НЯВЫКАРЫСТАНЫХ ШАНЦАХ (III)

Ведаю асабіста некалькі былых паслоў. Калі сустракаюся з імі, агортвае мяне свайго роду сарамлівасць. Аднаго з іх я неяк спытаў: чым растлумачыць тое, што на працягу трыццаці гадоў прысутнасці беларусаў у Сейме ніводзін з беларусаў не сказаў аніводнага слова ў нашых справах, тады, калі ў міжваенны перыяд толькі адзін Браніслаў Тарашкевіч у Сейме выказаў тысячы як жа важных слоў? Пасол задумаўся і шчыра адказаў: а хто ж з нас Тарашкевіч? Што праўда, то праўда. Адпак ёсць прыказка: „Калі ўзяўся за гуж, не кажы, што нядуж“ і з яе нашы прадстаўнікі павінны зрабіць вывады

**Алесь Баркі**

# БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

2 і 3 красавіка ў Кракаве, у зале імя М. Каперніка, што ў доме № 24 на вул. Галэмбяй, адбудзецца аўкцыён, падрыхтаваны студэнтамі Ягелонскага універсітэта, на якім будуць прадавацца кніжкі. Ніжэй называем тыя пазіцыі, якія могуць зацікавіць нашых чытачоў:

Poz. 109. Cabejszekówna I. — Materiały do znajomości planktonu roślinnego Polesia. Cz. I. Zbiorniki wodne Zahorynia. Suwałki 1937. Cena wywoławcza 100 zł.

Poz. 110. jw. — Cz. II. Zbiorniki wodne okolic Pińska. Suwałki 1939. C.w. 100 zł.

Poz. 161. Czarnowski O. — Polacy prawosławni na Rusi. Brześć n/B. 1927. C.w. 800 zł.

Poz. 184. Dąbkowski P. — Dobra rodowe i nabyte w prawie litewskim od XIV do XVI w. Lwów 1916, C.w. 400 zł.

Poz. 214. Dyakowski B. — Z puszczy Białowieskiej. Warszawa 1926. C.w. 300 zł.

Poz. 332. Jaroševičius A. — Croix Lithuaniennes. Vilno 1912. C.w. 10 tys. zł.

Poz. 370. Klaczko J. — Anneksya w dawnej Polsce (Unia Polski z Litwą). Kraków 1901. C.w. 800 zł.

Poz. 374. Kodeks dyplomatyczny Katedry i Diecezji Wileńskiej. T. I, z. 1—3 (1387—1507). Kraków 1939—48. C.w. 3 tys. zł.

Poz. 416. Krasiński E. — Obrazki łowieckie. Karpaty Wschodnie — Polesie. Warszawa 1927 r. C.w. 400 zł.

Poz. 582. O granice wschodnie Państwa Polskiego. Sprawozdanie z wiecu zwołanego w W-wie dn. 22.9.1918 r. przez grupę Polaków, pochodzących z polskich ziem wsch. Warszawa 1918. C.w. 200 zł.

Poz. 624. Pietkiewicz Cz. — Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego. Materiały etnograf. Warszawa 1938. C.w. 2 tys. zł.

Poz. 674. Przeździecki H. — Unia Florencka. Referat wygłoszony (...) podczas VI Zjazdu Unijnego w Pińsku. Pińsk 1937. C.w. 200 zł.

Poz. 818. Stebelski J. — Chronologia albo porządne według lat zebranie znaczniejszych w Koronie Polskiej i W. X. Litewskim a mianowicie na Białej Rusi Połocku dziejów i rewolucyj... Wyd. 2, t. II. Lwów 1867, C.w. 2,5 tys. zł.

Poz. 1033. Czacki T. — O dziesięcinach w powszechności, a szczególniey w Polszcze i Litwie y konieczney potrzebie utworzenia zamiany snopowey dziesięciny na osep zbożowy. Kraków 1802. C.w. 1,5 tys. zł.

Заказы на вышэй названыя кніжкі можна дасылаць на адрас: Uczelniane Koło Naukowe Miłośników Książki przy UJ. 30-965 Kraków — 69, skrytka pocztowa 235, з прыпіскай на канверце „Aukcja". У іх трэба падаць: нумар пазіцыі, прозвішча аўтара, загаловак кніжкі і найвялікшую цану, якую заказчык гатоў заплаціць за кніжку.

**Пётр Байко**

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

Барані, Божа, ад буры, агню, і благой жонкі.

Бацькі пазухі падзяруць дзецям носячы, а дзеці — ад бацькоў хаваючы.



**Старшыня белавежскага гуртка экскурсаводаў К. Віснеўскі (злева) і С. Куявяк у час святкавання 25-годдзя.**

# ПЕРШЫНСТВУЮЦЬ БЕЛАРУСЫ

Белавежскі гурток экскурсаводаў ПТТК — найвялікшы ў Беластоцкім ваяводстве. Зараз ён налічвае 75 чалавек, з чаго 27 чалавек гэта жанчыны, а 48 — мужчыны. У чэрвені г.г. гурток павялічыцца на больш-менш 30 новых членаў, таму што зараз працягваецца ў Белавежы экскурсаводчы курс, наладжаны мясцовым аддзелам ПТТК. І экскурсаводчы клас мае 6 чалавек, II — 17, а III — 52 чалавекі. 7 чалавек можа весці экскурсіі на замежных мовах (англійскай, нямецкай і рускай).

Белавежскія экскурсаводы ў 1983 г. вадзілі 1649 экскурсій, а ў 1984 — 1879. Найбольш актыўнымі экскурсаводамі з'яўляюцца Міхал Цыб (у двух апошніх гадах вадзіў ён 362 экскурсіі), Анна Бушко (315 экскурсій), Мікалай Патэюк (271), Мікалай Грынчэль (227), Трафім Дзем'янюк (217), Уладзімір Валкавыцкі (177), Георгі Шчэрба (149) і Аляксей Карняйчук (125). Прыемна нам заявіць, што ўсе названыя экскурсаводы — прадстаўнікі нашай нацыі.

Ды не толькі ваджэннем экскурсій займаюцца белавежскія экскурсаводы. Гурток вядзе багатае ўнутранае жыццё. Штогод наладжвае ўрачыстасць адкрыцця турысцкага сезона, арганізоўвае зімой перападрыхтовачныя сустрэчы, арганізуе экскурсіі ў розныя раёны дзяржавы. Не забывае пра сваіх членаў-жанчын, для якіх з нагоды іх свята (8 сакавіка) падрыхтоўвае вечарынкі. У мінулым годзе гурток урачыста святкаваў сваё 25-годдзе. На ўрачыстасць прыехалі прадстаўнікі экскурсаводчых гурткоў з цэлай Польшчы. Таксама і белавежскія экскурсаводы запрашаліся на юбілеі іншых гурткоў; у мінулых двух гадах — у Беласток і Калабжэг.

Удзельнічаюць белавежскія гіды і ў грамадскай працы. Шмат членаў прыняло год таму назад удзел у ачыстцы лесу ад ветравалаў і ветраломаў, а яшчэ раней — пры рамонце турысцкага шляху „Рэбры зубра". Праўленне гуртка купляе для сваіх членаў падрыхтовачныя матэрыялы, турысцкія торбы, матэрыял на вопратку. Удзяляе штогод пазыкі патрабуючым і беззваротныя ўспамогі. Нядаўна на сходзе экскурсаводы прынялі пастанову ўплаціць па 20 тыс. зл. на пабудову Беларускага музея ў Гайнаўцы і на мадэрнізацыю пачатковай школы ў Белавежы.

Старшынёй белавежскага гуртка экскурсаводаў ад лютага г.г. з'яўляецца Станіслаў Куявяк, дырэктар Белавежскага нацыянальнага парку, які на гэтым месцы падмяніў лесніка на пенсіі, Канстанціна Віснеўскага.

**Пётр Байко**

Фота Сцяпана Бушко

(Працяг са стар. 4)

## БЕЛЬСКІЯ АГЛЯДЫ

быць раённы агляд беларускай песні ў Гайнаўцы ў гэтым годзе (аб чым пісалася ў „Ніве").

У раённым аглядзе „Беларуская песня-85" у Бельску выступілі толькі чатыры калектывы і двое салістаў. Паводле занятых месц гэта былі: І — „Дзявочыя ноткі", ІІ — жаночы калектыў з Орлі, ІІІ — „Згодныя макі" з Райска, IV — „Бярозкі" з Кнарыд. Эля Маслоўская з Беларускага ліцэя была першай. У яе выкананні цудоўныя песні: „Матылі" і „Вы шуміце, бярозы". Другое месца заняў наш вядомы саліст Аляксандр Раманюк.

На жаль, гэта ўсё з беларускай песні. Пацяшае толькі тое, што „Дзявочыя ноткі" гэта новая змена — першакласніцы з Беларускага ліцэя, якія ідуць слядамі сваіх сяброўак з папярэдніх гадоў.

Чаму на аглядзе не спяваў ніхто з „Васілёчкаў"? Дзе іншыя калектывы і салісты? Дзеячы БГКТ у Бельску павінны больш увагі звярнуць на такое становішча беларускай песні і наогул мастацкай самадзейнасці ў горадзе і раёне. Талентаў тут не бракуе. Для прыкладу, самародны музычны талент — Мікалай Сідарук з вёскі Аўгустова, які акампаніраваў многім удзельнікам конкурсу. Між іншым, дзякуючы яму мог паспяхова выступіць Аляксандр Раманюк. Карысна было б зацікавіцца Мікалаем Сідаруком і выкарыстаць яго здольнасці ў беларускай мастацкай самадзейнасці.

**Ян Мордань**

ПАРТЫЗАНСКІЯ СЦЕЖКІ

# ТАЯМНІЦА ЦЁТКІ МАЛЬВІНЫ

Пастаянна трывожыла мяне думка: ці сапраўды Люба Маскаленка, гэтая Любачка, якую на шашы пад Міхаловам падабраў Андрэй Цабай, ці яна асталася круглай сіратой? А можа, яе сапраўдны бацька, савецкі афіцэр Фёдар Маскаленка, не апынуўся сярод забітых воінаў, якія папаліся ў рукі гітлераўцаў на гэтых аўтамабілях? Можа, яго там зусім не было?

Цётка Мальвіна Шымасюк, сялянка з Тапалян, расказвае мне:

— Калі немцы пайшлі на рускіх...

— Значыць, 22 чэрвеня 1941 года, — удакладніў я.

— Так, тады, з суботы на нядзелю, — прадаўжала сялянка, — то Федзя адразу паімчаўся да сваёй роты, значыць, на службу і доўга, вельмі доўга яго не было. Вера Міхайлаўна не ведала, што ёй рабіць. Ведаю гэта па расказах іх няні, якая была з Верачкай да апошняй хвіліны, а нават і пазней нейкі час асталася на гэтай кватэры каля гасцініцы „Рыдза".

Я, вядома, і на гэты раз не папраўляў цётку Мальвіну, што ў Беластоку быў гатэль **„Рыц"**, а не **„Рыдз"**, бо не аб архітэктурных памятках горада ішла ў нас гаворка. Хацелася штосьці болей канкрэтнае даведацца пра гэтага чалавека, пра афіцэра **Фёдара Маскаленка.** Хаця б, для прыкладу тое, якое ў яго было воінскае званне. У адказ, на жаль, яшчэ раз я пачуў, што Фёдар Маскаленка быў высокім, прыгожым, чарнявым мужчынам.

— А ў гэтых яго кубіках я нічога не разбіралася, — заявіла цётка Мальвіна. — Не магу тады сказаць вам, ці быў ён лейтэнантам ці іншым капітанам...

Не дапамог мне разабрацца ў гэтым дзядзька Валянцін Грыбоўскі, жыхар міхалоўскіх хутароў, даўнейшы салдат Войска Польскага, якога немцы загналі разам з іншымі сялянамі да пахавання пабітых рускіх салдат на шашы пад Міхаловам.

— Я ў польскіх ваенных чынах дык добра разбіраюся, — заявіў ён, — бо служыў я ў польскай арміі. Але рускія нават пагонаў тады яшчэ не насілі, адно толькі на каўнярах і рукавах адзначалі нейкія кубікі і шпалы. Здаецца мне, што сярод тых пабітых, якіх мы тут пахавалі, знаходзіліся два як бы афіцэры...

Я ўспомніў забітага сына Фёдара Маскаленкі і Веры Міхайлаўны — маленькага, чатырохгадовага **Воўку.** Чаму ён знаходзіўся, калі яго знайшлі мёртвым, не ля сваёй мамы, але каля нейкага мужчыны? Ці не лагічна было б падумаць, што ён, калі навісла над ім небяспека, проста інстынктыўна шукаў абароны ў свайго бацькі і разам з ім... Аднак, мог гэта быць зусім хто іншы, цалкам чужы дзядзька, нейкі выпадковы салдат, як усе гэтыя чырвонаармейцы, у кампаніі якіх апынулася Вера Міхайлаўна са сваімі дзецьмі.

— Вера Міхайлаўна месца сабе не магла знайсці, — апавядала Мальвіна Шымасюк. — Зна-

# РАЗВАЖАННІ ЧАЛАВЕКА ВОПЫТНАГА І ЎРАЖЛІВАГА

Многа ў жыцці бачым з'яў дрэнных, рашэнняў непрадуманых, учынкаў бессэнсоўных.

Хоць бы аб некаторых хочацца расказаць — можа, для развагі і прадумання.

## ЦІ ПАТРЭБНЫ ПАДВОЙНЫЯ ПАЧАКАЛЬНІ ПКС?

У нашым будаўніцтве выступае вельмі часта бяздумнасць. Хто будзе ехаць па шашы з Супраслі ў Крынкі, убачыць у 5 км ад Супраслі, у лесе, гаёўку. У гаёўцы гэтай жыве адзін чалавек. Але каля гаёўкі пабудаваны аж дзве пачакальні на прыпынку ПКС. Для каго, калі ўкругавую на 5 км няма ніводнай вёскі?

Едзем далей. Копная Гара. Тут лясніцтва, але ў аўтобус рэдка калі хто сядзе, аднак аж дзве пачакальні стаяць на прыпынку.

У далейшым падарожжы сустракаем вельмі маленькую, заміраючую вёску Пачапок. У кіламетры ад яе ёсць лясніцтва. Людзей няма, але пачакальні стаяць.

На здаровы розум, у такіх малых вёсачках ці пры леснічоўках, даволі было б адной пачакальні, а за ашчаджаныя грошы можна было б збудаваць нешта больш патрэбнае. Бяда ў тым, што здаровага розуму ў нас мала бывае. Пакуль не навучымся ашчаджаць залатоўку — не навучымся гаспадарыць пасучаснаму.

## ІМ СПРАВЯДЛІВА НАЛЕЖЫЦЦА

Многа яшчэ сустракаем між намі ваенных інвалідаў другой, а нават і першай сусветных войнаў, барацьбітоў за народную ўладу, былых партызанаў. Згуртоўвае іх арганізацыя ЗБоВіД. Дзяржава цэніць гэтых людзей і прызнала ім некаторыя прывілеі. Маюць яны права купляць без чаргі, карыстацца з некаторых паслуг без чаргі, без чаргі ўвайсці ў аўтобус. Але людзі гэтыя часта сумна скардзяцца, што шафёры ПКСаў не прызнаюць іхняга права першымі ўвайсці ў аўтобус, нявetліва іх праганяюць: „Калі ты стары і інвалід, то сядзі ў хаце".

Трэба ведаць, што каму як каму, але ваенным інвалідам па справядлівасці належыцца першынства і гэтага права павінны і ў ПКС прытрымлівацца.

## ПРА ДАРЫ

Ці ў нас голад ёсць? Ці нашы людзі голыя-босыя ходзяць? Навошта нам заграцічныя дары? Многія дарамі кормяць свінней і парасят. А потым тыя парасяты ў многіх здыхаюць, як даказвалі лекары-ветэрынары, ад малака ў парашку. Бо даюць людзі парасяці скандэнсаванае малако, а яно мае многа бялка і парася, не могучы яго пераварыць, дохне.

Прыклад на тое, што ў маёй ваколіцы робіцца з гэтымі дарамі. Адзін гаспадар кажа, што не браў дараў, бо сорамна неяк, але вось солтыс (бо бацюшка солтысу паручыў раздаванне) два разы наказваў — забірай. Пайшоў я, значыць, і прынёс 4 кг малака ў парашку, 6 кг масла, 12 кг сыра і 2 вядры топленага масла, елкага — што адразу жонка свінням аддала.

А другі раз у іншага ў хлеўчыку бачу — ляжаць тры мяшкі осыпкі з англійскімі надпісамі. Пытаю, што гэта за осыпка, а ён кажа: гэта я прынёс тры мяшкі малака і 100 кг сыра, дык купіў двое парасят і буду карміць.

Аж душа баліць, як падумаеш, што на свеце з голаду паміраюць мільёны людзей. Людзі ў нас ужо гавораць, што час скончыць з гэтым шмуглем. Няхай тыя дары ідуць у Афрыку — у Чад, Судан, Эфіопію і іншыя галодныя краіны.

## ПРА БУБЛІ

У магазінах і крамах паявіліся горбы тавараў, якія людзі называюць „бублямі". Гэта тавары, якіх ніхто не будзе купляць. Іх праз нейкі час пераацэньваюць — абніжаюць цану на 40-50%, але і пасля гэтага яны ляжаць на полках. Гэта найчасцей абутак, адзежа, гаспадарчыя і хатнія тавары.

Чаму людзі не купляюць гэтага тавару, хоць патрабуюць ботаў, паліто і ездзяць па гарадах — шукаюць далёка, або шалёныя грошы плацяць на рынку?

А таму, што „бублі" ёсць „бублі" і проста нікому такое непрыгодна ў жыцці. Толькі чаму нашай прамысловасці аплачваецца прадукаваць „бублі"? Адкуль бярэцца такая дурацкая эканомія, што для сябе, на ўнутраны рынак, трэба і можна рабіць абы-што і абы-як?

## МЯСА ЯМО МНОГА

Чуецца часта пытанне, чаму ў нас не хапае мяса? Я скажу, што ў нас ёсць многа мяса, толькі што вялікая яго частка не прадаецца ў дзяржаўнай сістэме гандлю, а ідзе праз „чорны рынак".

Такі прыклад. Бацька перапісвае зямлю на сына (які разам з жонкаю працуюць на пасадзе) ці дачку і лічыцца ўжо беззямельным, дамагаецца і атрымлівае з гміны карткі на мяса. Але такі „беззямельны" гаспадар у далейшым на той „сынавай" зямлі працуе, як і дагэтуль, гадуе свінней, кароў, па 2 парсюкі б'е ў год для сябе і сям'і, а рэшту прадае ГСу (гэта яшчэ добра) або на „чорным рынку" (гэта дрэнна).

Такіх прыкладаў мы цяпер знойдзем колькі хоч кругом. Але сумленнаму чалавеку сумна робіцца ад гэтых камбінацый і спекуляцый.

Нашы міністры сядзяць у сваіх кабінетах і не надта, відаць, арыентуюцца, як стаіць сельская гаспадарка і як яе развіваць, бо замала на вёску едуць.

**Кум**

чыць, немцы ўжо каторы дзень бамбяць горад, кругом пажары, усе знаёмыя паўцякалі... а яна, беднекькая, не ведае, што ёй рабіць. Уцякаць, ці чакаць яшчэ мужа? Урэшце ў апошнюю хвіліну ля іх кватэры спынілася нейкая аўтамашына, і Федзя Маскаленка загадаў, каб Вера Міхайлаўна разам з людзьмі хутка ладкавалася на гэты аўтамабіль...

— Ці ён асабіста, сам прыехаў за жонкай? — рашыў я ўдакладніць падрабязнасці эвакуацыі гэтай сям'і. Цётка Мальвіна змерала мяне непрыхільным позіркам, як бы хацела сказаць, чаго, маўляў, я чапляюся да яе, але, хвіліну падумаўшы, нерашуча адказала:

— Вось гэтага я вам дакладна сказаць не магу. Бабуля, якая ў іх даглядала дзяцей, на жаль, ужо нябожчыца, гаварыла мне так: *„Федзя прыслаў машыну"*. А ці ён быў сам, ці яго там не было — гэтага я вам дакладна не скажу.

Вось і новая загадка. Калі яго там не было, дык мог неяк вырвацца з „беластоцкага катла", але мог таксама пакласці галаву ў час даволі зацяжных баёў, мог і папасці ў палон, а ў палоне, асабліва ў беластоцкім лагеры, людзі гінулі як мухі.



**„— Я не магла затаіць праўды", — кажа Мальвіна Шымасюк, якую бачым на гэтым здымку з яе ўнукамі.**

Калі б, аднак, прыняць найбольш шчаслівы варыянт, калі б прыкінуць, што Фёдар Маскаленка астаўся ў жывых, то дзе яго шукаць? Ёсць у цэнтральным архіве Савецкай Арміі, што ў Падольску, спісак жывых і мёртвых афіцэраў, якія ваявалі ў час другой сусветнай вайны. Аднак, каб туды звярнуцца неабходна ведаць хаця прыблізна год нараджэння асобы, якую шукаеш, прозвішча і імя ды імя па бацьку, а таксама і ваеннае званне. На жаль, гэтага, што я змог даведацца, далёка недастаткова, каб атрымаць нейкі суцяшальны адказ. Прозвішча **„Маскаленка"** даволі папулярнае сярод рускіх, беларусаў і ўкраінцаў.

А ўсё ж недзе на прасторах вялікай Краіны Саветаў жывуць гэтыя **адзіныя Маскаленкі**, якія маюць непасрэдныя адносіны да **Любы Маскаленка,** да гэтай жанчыны, якая жыве ў Міхалове, у 32 кіламетрах на ўсход ад Беластока. Калі няма там яе роднага бацькі, Фёдара Маскаленкі, дык, магчыма, знаходзяцца яго браты або сёстры

(Працяг на стар. 8)

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне, мо ўжо чацверты ці пяты раз сніцца мне назойлівы сон. Быццам бы я еду кудысьці заграніцу. Мае быць гэта вельмі цікавая экскурсія. Я пра гэта ведаю. Але я да выезду не збіралася і не ўзяла з сабою ніякіх рэчаў, а найгоршае гэта тое, што я не ўзяла сваіх лякарстваў. І ў страшэнных муках, што я еду далёка, а лякарстваў у мяне няма, я найчасцей прачынаюся.

Апошні сон з гэтай серыі выглядаў больш-менш так. Быццам бы мы едзем аўтобусам на нейкі аэрадром. Я радасная, бо ведаю, што мы паляцім у Мексіку. Па дарозе да аэрадрома аўтобус затрымліваецца (панове — налева, пані — направа). Я сяджу і думаю: во гэты чалавек напэўна хоча ўцячы. І цяпер вось у лесе ўцячэ за мяжу. Але ж не — вярнуўся. І вось прыязджаем мы на аэрадром, які ўжо знаходзіцца быццам на Захадзе ці дзе, але ведаю, што за мяжой (ці не ў Ганконгу?). Ну, і падыходзіць да нас той чалавек, якога я падазравала, што хоча ўцячы і кажа, што цяпер ужо „бывайце здаровы", бо я ўжо там, дзе хацеў быць. Ну, але ж мы маем ляцець у тую Мексіку (а мо на Кубу) і маем ужо садзіцца ў самалёт. Я бачу гэты самалёт, што ён стаіць падрыхтаваны да адлёту. Але ж як ляцець, я ж не ўзяла з сабою нават бялізны на змену, ніякай вопраткі, а найгоршае, што ніякіх лекаў. Пытаюся ў нашай пілоткі, ці хаця дастану ў самалёце „авіямарын", а тая адказвае, што „авіямарына ў нас у самалёце не падаюць". І з пакутлівымі думкамі, што хочацца ехаць, але ж без лякарства не магу ехаць, я прачнулася. Астроне дарагі, што са мной будзе?!

**Аня**

Аня! Перш за ўсё абавязкова схадзі да лекара. Здаецца, з тваім здароўем не ўсё ў парадку. Гэтая боязь, што не маеш пры сабе лякарстваў, дарма цябе не праследуе. Калі ж лекар сцвердзіць, што ты ўсё ж не надта хворая, тады шукай развязкі сну ў іншых меркаваннях.

Наогул сніць экскурсіі, паездкі заграніцу — гэта вельмі добра. Але што ж, калі нешта добрае табе пакуль што немагчыма рэалізаваць! Нечага табе ў гэтым будзе не хапаць. Для дасягнення тваіх мэт неабходна нейкае „лякарства!" Можа гэта быць проста нейкая дапамога ў хвалюючых цябе справах, якія, уласна кажучы, ужо на добрай дарозе.

**Астрон**

## МУРАШКІ-ПЕРАСЯЛЕНЦЫ

Спецыялісты лясной гаспадаркі Беларусі закончылі састаўленне карт, на якіх адзначаны месцы пастаяннага знаходжання мурашыных сямей. На думку вучоных-лесаводаў, для спрыяльнага развіцця лесу на кожным яго гектары павінна быць 4-5 мурашнікаў. З тэрыторый, дзе запланаваны высечкі, сем'і лясных санітараў перасяляюцца ў маладыя хваёвыя лясы.

## Цікавінка

### РАЗВОДЫ ДЗЕДА З БАБАЙ

Кожная чацвёртая пара ў Японіі разводзіцца. Не разводзяцца аднак людзі маладыя, бо маладым разводаў у Японіі наогул не даюць. Абсалютная большасць разводаў — гэта разводы старых.

Між іншым, дзеецца гэтак таму, што развод працуючага мужчыны мог бы вельмі яму пашкодзіць у працы, у кар'еры, — значыць найлепш пачакаць да пенсіі.

Іншая прычына такая, што мужчына ў Японіі, які закончыў працу і пайшоў на пенсію, абсалютна не патрапіць жыць у хаце. Ён жа ўсё сваё жыццё аддаў фабрыцы, дзе падпарадкаваны быў цалкам, а цяпер не ведае, што рабіць з сабой і сваім часам. У хаце ён проста інвалід, бо ніколі нічога тут не рабіў і не загадваў — жонка была тут адзіным кіраўніком.

Смешна, але спецыялісты лічаць, што муж з жонкай на працягу цэлага жыцця былі разам так мала, што не зжыліся, бо мужчына, працуючы ў Японіі, бярэ ў год найбольш 3-4 дні водпуску, хоць належыцца яму больш. Японцы любяць працаваць і лічаць, што выкарыстаць належны водпуск поўнасцю — гэта вялікі сорам і неганарова, таму прадпрыемству і працы аддаюць усе свае сілы. Жанчыны застаюцца ў хаце ўсё жыццё, атрымліваючы толькі заробленыя мужам грошы.

Значыць, на старыя гады ў далейшым няма перашкод, каб кожны жыў сабе.

(вл)

## Куток практычных ведаў

■ Адзенне з цёмнага шоўку і тафты больш захоўвае бляск, калі пасля мыцця яго прапаласкаць у халоднай вадзе з соллю — на пяць літраў вады 125 г солі.

■ Сукенкі, спадніцы і блузкі з набіўнога шоўку захоўваюць свежы колер, калі іх паласкаць у халоднай падсоленай вадзе той жа прапорцыі.

## З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ

# Масленіца

Набліжэнне вясны ў земляробчых народаў абазначала пачатак палявых прац. Зіма — уладарніца холаду і смерці — памалу патрачвала сваю моц пад промнямі сонца, якое штораз вышэй і вышэй узнімалася ў неба, рыхтуючы дарогу вясне. Набліжэнне вясны і было пачаткам вясенняга цыкла ў каляндарнай абраднасці. У народаў хрысціянскага веравызнання выпадала гэта на апошні тыдзень перад вялікім постам, які быў перыядам духоўнай падрыхтоўкі да свята ўваскрасення. Часова была гэта больш-менш другая палова лютага і пачатак сакавіка.

Масленіца, масляна, маслянка, сырная нядзеля — гэтак называлі беларусы, украінцы, рускія абраднасць, звязаную з тым пераходным момантам у прыродзе. У палякаў і заходнееўрапейскіх народаў — гэта карнавал. У асноўным абрад гэты звязаны з провадамі зімы і гуканнем вясны. Назва, несумненна, бярэ свой пачатак ад таго, што пасля мясаеду, у апошні тыдзень перад вялікім постам людзі харчаваліся ў асноўным масленымі і малочнымі стравамі. Елі многа сыра, малака і масляных бліноў або варэнікаў. Хаця абрад выводзіцца з глыбокіх язычаскіх часоў, старажытная назва яго не захавалася. Спомненая назва паявілася з прыходам хрысціянства і паняццем вялікага посту. Гэта яшчэ адзін прыклад дапасоўвання хрысціянскіх свят да язычаскіх культаў, з увагі на іх сілу і традыцыю ў народзе. Адзін святар, апісваючы масленіцу (Саранскі ўезд) у канцы XIX ст., сказаў: „У масленічную нядзелю на абедні няма нават і дзесятай часткі прыхажан, трэба святкаваць масленіцу!"

Масленіца — перадвясенняе святкаванне сялян — звязана з культам прыроды і мела наблізіць вясну, забяспечыць людзей багатым ураджаем і дабрабытам. Святкавалі ўсе, незалежна ад полу і ўзросту. Бытавала перакананне, што тыя, хто не павесяліцца і не пацешыцца на масленіцу, правядуць жыццё ў горы і закончаць у галечы. Вясёлае і шчодрае гасцяванне, язда на санках, памінанне памёршых, наведванне маладажонаў, чаплянне старым халасцякам „калодкі", наведванне бабкі-павітухі, вогнішчы (апошнія ў беларусаў з'яўляюцца рэдкасцю і хутчэй гэта ўплыў рускай культуры) — гэта асноўнае масленічнага тыдня. Царква масленіцу не святкавала. З яе ўплыву на абрад пахавання зімы і заклікання вясны быў той, што ў гэты тыдзень нельга было есці мяснога. Людзі, пераняўшы ў спадчыне ад пакаленняў багатую традыцыю, не хацелі адрачыся ад яе з-за яе каларытнасці, з-за таго, што гэтак рабілі іх бацькі, дзяды і прадзеды, а з другога боку, і пабойваліся ўгнявіць усёбачнага і ўсёмагучага Бога. І таму, рыхтуючыся да вялікага посту, вельмі прытрымліваліся законаў хрысціянскай рэлігіі. Часта пры масленічных вогнішчах, у якіх спальвалі саламянае чучала, сімвалізуючае зіму, гаварылі дзецям, што, маўляў, там гараць: і масла, і сыр, і малако, і мяса. Гэтак паясняліі дзецям непрысутнасць той ежы ў час посту. Адбывалася гэта ў нядзельны вечар перад чыстым панядзелкам — першым днём посту. Называлі яго інакш заговінамі, або прашчальным. Этымалогія першага ў тым, што ў гэты вечар існавала традыцыя ўрачыстага з'ядання яек, інакш загаўлянне. Разгаўляліся гэтакімі ж яйкамі, толькі свянцонымі, на першы дзень Вялікадня. На працягу сямі тыдняў вялікага посту яйкі есці забаранялася. Назва другога бярэ свой пачатак з таго, што ў гэты дзень, а па сутнасці вечар, людзі даравалі сабе віны, каб прыступіць да посту з чыстай душою. Адбывалася гэта або пры вогнішчы, якое палілі ў знак адыходу і развітання з зімой, або ў хатах пасля вячэры перад сном. Ад вогнішчаў разыходзіліся, калі тыя пачыналі гаснуць; дома кладліся спаць. І ў адным і ў другім выпадку сімвалізавала гэта заканчэнне пэўнага этапа.

Асноўнымі этапамі святкавання масленіцы былі вогнішчы, провады і пахараны зімы, наведванне маладажонаў (тых, для якіх гэта першая масленіца ў іх жыцці), катанне на санках, карагоды, спевы.

Некаторыя этнографы даказваюць, прыкладна П. Бяссонаў, што ў абраднасці беларусаў адсутнічала вогнішча і спальванне чучала. Е. Раманаў даказвае, хаця не дае прыкладу, што масленіца ў беларусаў была вясёлая і гаманлівая „ад панядзелка да нядзелі". Цяжка паверыць у адсутнасць вогнішч у той час, калі гэтакія былі і ў рускіх, і ў палякаў (мажанна). Як можа адсутнічаць агонь у абрадзе культу сонца? Проста не захаваліся паданні на гэтую тэму. Як магло адсутнічаць спальванне або пахаванне чучала — сімвала зімы тады, калі пахараны гэтай пары года былі асноўным этапам масленічных абрадаў.

Масленіца — гэта наведванне і гасцяванне. Як правіла, маладажоны наведвалі бацькоў жонкі. Ехалі на так званыя „заговіны", інакш на бліны. Адтуль і руская пагаворка „К тёще на блины". У сувязі з тым, што ў беларусаў бліны падмянялі варэнікі гаварылася з намёкам на наступаючы пост: „Варэнікі давядуць, што хлеба не дадуць". Вясковая моладзь, тая, адкуль была жонка, як правіла, патрабавала ад прыехаўшага мужа выкупу — у асноўным пачастунку гарэлкай і закускай. Дарункі трэба было везці і цесцям і ўсёй сям'і, якая пры іх жыла. Часта маладых качалі па снезе. Прытым закопвалі ў снег шапку маладажона і жонка мусіла яе выкупіць. Выкупляла пацалункамі, што сімвалізавала разбуджэнне прыроды. Вядомы таксама звычай катання маладых санкамі. Жонка сядала мужу на калені і цалавала яго. На вясёлы крык: „Яшчэ раз падмаж, хутчэй пойдзе", паўтарала гэта столькі разоў, колькі патрабавалі.

Язда санкамі, на конях са званочкамі, гушканне, спевы былі неадзоўнымі элементамі святкавання масленіцы. Усё гэта адбывалася з мэтай закліку вясны і забеспячэння добрым ураджаем. Прыкладна, з'язджалі з горкі на прасніцах, каб запэўніць ураджай ільну. Паспяховае з'езджанне прадвяшчала, што лён будзе доўгі і валакністы. Пры гэтым спявалі:

Дапамажы, Божа, вясну заклікаці;
На ціхае лета, на ядрана жыта,
Жыта і пшаніцу,
Усялякую пашніцу...

Вядучую ролю ў абрадзе адыгрывала моладзь. Часта ішла яна пад хату маладажонаў, спяваючы:

Маладая Маруська,
Выйдзі да нас...
Вазьмі сыра — родзіш сына,
Вазьмі мачку — родзіш дочку...

Потым бралі маладуху, садавілі яе на санкі і везлі да карчмы, калі гэтакая была. Калі не — вазілі па вуліцы. Пры супраціўленні рабілі гэта сілаю. Везлі і спявалі:

Ой, чуць жа, нам чуць,
Дзе гарэлачку п'юць,
Ой, чачу, ой, чачу —
Гарэлачкі хачу.

І муж ставіў. Звычай гэты вельмі блізкі палякам. Гэтак жа сама адбывалася ў пазнаньскіх і кашалінскіх вёсках.

Не забывалі і пра старых кавалераў. Чаплялі ім на шыю так званую „калодку" (нейкі кій), каб менш бегаў, а хутчэй знайшоў сабе жонку і ўладкаваў сямейнае жыццё.

У эйфарыі смеху, песень, гульняў, гасцявання народ не забываў і пра тых, якія адышлі з гэтага свету. Апошняя субота масленіцы была „суботай бацькоўскай". Потым склікалі ўсіх памёршых. Першы блін, першы варэнік аддавалі ім. Клалі іх на акно, або насілі на магілы ў прашчальную нядзелю.

Заніклі карагоды, няма катання на санках, забыліся гульні. Па даўніх абрадах масленіцы засталося толькі гасцяванне — шумнае, гарэлачнае, з аркестрамі і моднымі спевамі. Сённяшнія песні, сённяшнія выдуманыя стравы так зменлівыя, што трэба гаварыць не аб жывучасці традыцыі пахавання зімы і заклікання вясны, а аб пахаранах абраду масленіцы.

**Міхась Шаховіч**

(Працяг са стар. 7)

# ТАЯМНІЦА ЦЁТКІ МАЛЬВІНЫ

ці дваюрадныя браты і сёстры гэтай жа Любы...

Адкуль, аднак, упэўненасць, што жанчына з Міхалова... называем яе, прыкладна, **Данутай**, што гэтая Данута якраз з'яўляецца той жа самай Любачкай, дачкой Фёдара Маскаленкі і Веры Міхайлаўны?

Тут Мальвіна Шымасюк не праяўляе аніякіх хістанняў. Яна цвёрда і ўпэўнена заяўляе:

— Цабаева Данусяя расла на маіх вачах. З гадамі я ўсё больш і больш набірала ўпэўненасці, што гэта дачка Веры Міхайлаўны, што гэта тое ж самае дзіця, якое я не адзін раз бачыла ў сям'і афіцэра Савецкай Арміі, у Фёдара Маскаленкі. Магу прысягнуць і пабажыцца, што я не ілгу! — і цётка Мальвіна паклала на грудзі шырокі знак крыжа. — Калі яна была ўжо вялікай дзяўчынкай, калі пайшла ў школу, дык я проста не змагла змаўчаць, каб не выказаць людзям сваёй спасцярогі, што гэтая Данка як дзве кроплі вады падобная на сваю родную маці, значыць, на Веру Міхайлаўну, якую я ведала і цаніла, як сваю родную сястру...

— Значыць, — перапыніў я гаваркую сялянку, — гэтая дзяўчынка, менавіта ад вас даведалася, што яна не родная дачка Цабаеў?

— Гэтага я вам не скажу, бо сама добра не ведаю, — засцераглася цётка Мальвіна. — Праўда, аднойчы я перапыніла Данусю і папрасіла яе да сябе, што маю сказаць ёй штосьці вельмі важнае.

— Данусяя, — гавару ёй, — ці ты ведаеш, што ты руская, праваслаўная, што сапраўднае тваё імя — Люба, а маці твая называлася Вера Міхайлаўна, а бацька — Фёдар Маскаленка...?

Цётка Мальвіна аб нечым падумала, цяжка ўздыхнула і прадаўжала:

— Так я ёй гавару, а яна нічога мне не адказала, толькі расплакалася і ўцякла з маёй хаты і больш ужо не хацела са мною сустракацца...

І цётка Мальвіна, апусціўшы галаву, зноў замоўкла на даўжэйшую хвіліну. Я чакаў і адначасова разважаў пра ўчынак гэтай жанчыны. Як назваць яго? Ці добразычлівым ці непрадуманым, шкодным?

Цётка Мальвіна адвярнула галаву да святых абразоў, што віселі на покуце, і, паклаўшы на сябе шырокі знак крыжа, адазвалася нейкім збалелым голасам:

— Госпадзі Божа наш, даруй грахі нашы! Я ж не хацела, не думала нічога ліхога! Проста цяжка было мне, вельмі цяжка насіць у душы гэтую тайну. Я баялася, што, не дай Бог, памру і разам са мною памрэ ўся трагічная праўда аб лёсе гэтай жанчыны. Цяпер чую, што яна, гэтая Данка, мае да мяне прэтэнзіі, маўляў, што я хацела ёй зашкодзіць. А гэта няпраўда! Паглядзіце, у мяне ўласныя дзеці і колькі ўнукаў! Я ж гатова была б у кожную хвіліну яшчэ і яе прыгарнуць да нашай сям'і, як родную дачку...

— А ў Цабаеў ці дрэнна ёй жылося? — зноў перабіў я вывады гэтай жанчыны.

— Ці дрэнна? — задумалася Мальвіна Шымасюк. — Гэтага я сказаць не магу. Найлепш было б папытаць аб гэтым у яе самой і ў гэтых жа Цабаеў...

І я пытаў. А яны, асабліва Яніна, Цабаева жонка, ахвотна расказалі мне аб сваіх перажываннях, вельмі складаных і трагічных, гераіняй якіх была іх Данусяя. Яны варты і нашай увагі, аб чым ужо наступным разам.

**Віктар Рудчык**
**Фота аўтара**

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Ядвіга Бяганская

### ПАМОЧНІЦА

Прыйшла мама з работы, адпачыла крыху ды пачала ў хаце прыбіраць. Прыбірала, прыбірала, а пасля села на крэсла ды гаворыць Надзейцы:

— Ой, як галава мая баліць. Паляжу я крыху, дачушка, а пасля падлогу памыю.

Лягла яна ў спальні на ложак ды заснула. Паглядзела Надзейка, што мама спіць, накрыла яе вялікай шарсцяной хусткай, выйшла на пальчыках з пакоя і дзверы за сабой прычыніла.

„Хай паспіць мама, а я тут пасяджу ціхенька, пачытаю“, — думае Надзейка і садзіцца ў вялікае татава крэсла.

А ў пакоі непарадак. Каля дзвярэй вядро з вадою стаіць, анучка мокрая ля яго ляжыць, сярод пакоя крэслы састаўлены. Ой, як няўтульна ў пакоі!

Сядзела, сядзела Надзейка ў крэсле, ды пачала думаць, як бядзе дапамагчы.

„А што, калі я сама падлогу памыю? Не маленькая ўжо, хутка ў школу пайду вучыцца“, — падумала Надзейка і ўстала з крэсла.

Асцярожна, каб не разбудзіць маму, Надзейка ўзялася за справу.

Нялёгка ўпраўляцца з вялікай анучай, калі ў цябе такія маленькія рукі. Не слухаецца анучка Надзейкі, не хоча ніяк ваду з сябе выпускаць. Выціскае, выціскае яе Надзейка, з усіх сіл стараецца, а з яе цячэ ды цячэ. І як гэта мама так лоўка ладзіць з ёю? Ну і Надзейка не адступіцца, не такая яна, Надзейка, каб нейкая ануча яе адолела.

Памалу справа пайшла на лад, і Надзейка не паспела агледзецца, як падлога была памыта. Праўда, ад гэтай непаслухмянай анучы балелі крыху рукі і на ружовых далонях выскачылі белыя мазолікі, але Надзейку гэта ніколі не турбавала. Яна рада была таму, што зрабіла маміну работу, і шчаслівая ўсмешка блукала на яе расчырванелым ад работы твары.

— А цяпер я пастаўлю чай і прыгатую вячэру, — сказала сама да сябе Надзейка і пачала завіхацца ля стала.

Калі чайнік забразгаў бліскучай нікеляванай накрыўкай, Надзейка пайшла будзіць маму.

— Ой, як я доўга спала! — глянуўшы на гадзіннік, усклікнула мама. — Хутка тата з работы вернецца, а ў мяне яшчэ падлога не памыта і вячэра не прыгатавана.

Устала мама, выйшла са спальні і вачам сваім не паверыла. І падлога памыта і вячэра стаіць на стале.

— Хто ж гэта ў нас гаспадарыў? — здзіўлена запытала мама.

— Я! — весела адказала дзяўчынка.

Мама паглядзела на Надзейку, а пасля прыгарнула яе да сябе, пацалавала спачатку ў адну, а пасля ў другую шчаку і сказала:

— Памочніца ты мая дарагая! Гаспадынька ты мая слаўная!

### НАЙПРЫГАЖЭЙШАЯ ПАРА

Трэці клас. Пачынаецца ўрок.

— Дзеткі, — кажа настаўніца, — сёння не будзем пісаць і чытаць не будзем. Толькі пагаворым.

— Вельмі добра — шапнуў суседу Барыс. — А то я чытаць не навучыўся. — І закруціўся на месцы.

— Ціха, Борка. Што ты такі вясёлы? — заўважыла настаўніца.

Яна ў нас усё прыкмеціць. І ведае ўсё. І добрая вельмі. Мы яе ўсе любім.

— Тэма нашага ўрока — найпрыгажэйшая пара года. Дык пачнем. Барыс, ты вельмі вясёлы сёння. Пачынай. Якую ты найлепш любіш пару года? — сказала настаўніца.

Хлопчык спачатку збянтэжыўся, аднак пачаў:

— Зіму найлепш люблю. Калі снег падае. Ляціць, быццам матылькі. Але іх так многа-многа. А потым уся зямля бялюсенькая кругом. На санках катацца можна. З горкі кубарам ляцець. А калі лёд ваду скуе, на каньках добра паездзіць. Снежкамі добра пабіцца. Нічога, што мароз вялікі. Ён нам не страшны. Я зімовыя гульні вельмі люблю. Для мяне зіма — найпрыгажэйшая пара года.

Клас ажывіўся. Дзеці ўспаміналі прыемнасці зімы. Тварыкі расчырваненіся, як ад марозу. Кожны ад сябе дадаць хацеў. Адзін Міколка маўчаў. Мы ведалі: ён вельмі любіць прыроду, птушак і звяроў. Мы яго звалі заолагам.

— А ты, Міколка, што скажаш?

— Я найбольш вясну люблю. Калі сонейка высока. Пагрэцца люблю пры нагрэтай сцяне. Усё ажывае. Птушкі да нас прылятаюць. Зялёна робіцца. Кветкі з-пад снегу выглядаюць. Усё робіцца весялейшым. Люблю, калі першы гром прагрыміць. Тады трава пачынае расці. Гэта найпрыгажэйшая пара, — закончыў Міколка.

Усе памаўчалі.

— Можа, ужо сустракалі вясну? А Уладзік што скажа?

Уладзік не вельмі прыглядаўся прыродзе. Ахвоты не меў.

— Я... я... — і заціх.

— Што я? Чакаем. Падганяла яго настаўніца.

— Я лета найбольш люблю.

— Чаму?

— Цёпленька летам. Апранацца не трэба. І яшчэ...

— Кажы, кажы.

— Хадзіць у школу не трэба. Можна адпачыць і мне і бацькам, — выпаліў Уладзік.

— А чаму бацькам? — перапытала настаўніца.

— Бацькам ад мяне адпачынак. У іх і так работы — аж страх. — Уладзік апусціў галаву. — За мяне ўрокаў рабіць не трэба.

Рогат падняўся на ўвесь клас.

— Ціха, дзеткі. Супакойцеся. Ён паправіцца. Так больш не будзе. Ён жа мужчына. Не плач. Перастань. Мы ўсе паможам Уладзіку, праўда? — звярнулася настаўніца да класа. — А ця-

(Працяг на стар. 10)



Жэня Садоўская, вучаніца чацвертага класа з Іванак, найлепшая тэнісістка сярод вучняў малодшых класаў. Яна выступае ў школьнай камандзе, якая займае першыя месцы нават у ваяводстве.
Фота Я. Чэрнякевіч.

Сяргей Баруздзін

### ХТО РАЗБІЎ?

Неяк раніцай у час снедання ў прадшколлі была пабіта талерка.

Ніхто не бачыў, як яна ўпала са стала на падлогу і разбілася на дробныя кавалачкі.

Выхавацелька спытала:

— Хто з вас разбіў талерку?

— Не я! — сказаў Віталік.

— Не я! — сказала Лена.

— Не я! Не я! Не я! — сказалі іншыя дзеці.

Толькі Святлана паглядзела на выхавацельку і цішэй за ўсіх сказала:

—Мабыць, яна сама неяк разбілася...

— Ну добра, — кажа выхавацелька, — ідзіце пакуль што гуляць.

Пачалі дзеці бавіцца і зусім забыліся аб тым, што здарылася. Не заўважылі, як праляцеў час і надыйшла пара абедаць. Усе памылі рукі і селі за сталы.

Нянечка прынесла вялікі паднос, а на ім шэрагам стаялі талеркі з супам.

Пачалі дзеці есці.

— А мне? — пытаецца Віталік. — У мяне няма талеркі.

Усе паглядзелі на Віталіка: праўда, у яго няма талеркі.

— Табе, Віталік, давядзецца пачакаць, — кажа выхавацелька. — У нас жа талерка раніцай сама разбілася, праўда?

— Няпраўда! — раптам ціха сказала Святлана. — Талеркі самі не разбіваюцца. Гэта я... няхочучы разбіла. Я больш не буду! — І яна падсунула сваю талерку Віталіку. — Еш!

Тут усе дзеці павярнуліся да Святланы, а яна пачырванела і ні на каго не глядзіць.

„Зараз яе выхавацелька пакарае“, — чакаюць дзеці.

Але выхавацелька падышла да Святланы і сказала:

— Вось і добра, што талеркі ў нас самі не разбіваюцца, а дзеці гавораць праўду.

# МАЛЮЕМ РАЗАМ З ЛЁНІКАМ

ЛЁНІК

*Наш мастак Лёнік прапануе вам супольнае маляванне. Лёнік пачаў маляваць карціну — зрабіў першыя знакі. Цяпер ваша чарга. Дамалюйце трошкі вы. Зрабіце тры крэскі — простыя або крывыя лініі. Але толькі тры. Прычым, абавязкова трэба мець на ўвазе нейкую ідэю карціны. Зрабіўшы свае тры крэскі, выражце малюнак і прышліце ў рэдакцыю. Лёнік выбярэ дзве-тры найцікавейшыя, як на вока спецыяліста, карціны, і дамалюе наступную частку малюнка. Зноў, а гэта будзе праз месяц, „Зорка“ надрукуе гэтую карціну, ужо папоўненую, і ваша задача будзе зноў дамаляваць яе. Так будзем маляваць, пакуль не выйдзе ў вас супольна з Лёнікам гатовая карціна.*

*Лёнік абяцаў дамалёўваць усе прысланыя карцінкі ды адсылаць іх вам назад. Маляваць трэба вельмі старанна і не больш як тры крэскі.*

*Найцікавейшыя супольныя карціны зноў будуць надрукаваны, а пераможцы атрымаюць узнагароды-неспадзянкі.*

*„Зорка“*



## Пішуць школьнікі

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА“!

*Вялікае дзякуй за ўзнагароду. Мы вельмі абрадаваліся, калі прачыталі ў „Зорцы“ аб узнагародзе. Альбом „Край блакітных азёр“ вельмі нам спадабаўся. Ён вельмі прыгожы. Мы разглядалі яго на ўроку беларускай мовы і думаем, што яшчэ не раз будзем ім карыстацца на ўроках.*

*Жадаем усім працаўнікам „Нівы“ і „Зоркі“ поспехаў у працы і шмат радасці кожнага дня.*

**Вучні 5 класа школы ў Пасынках.**

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА“!

*Я вельмі люблю чытаць „Зорку“ і цешуся, калі яна да нас прыходзіць. Я ўжо вывучаю беларускую мову і ўмею чытаць па-беларуску. Таму і пішу да вас пісьмо, каб да мяне зайсёды прыходзіла „Ніва“, а ў ёй была „Зорка“ і адгаданка. Я вучуся ў трэцім класе, мне 10 год.*

**Аня Сцепанюк,**
**Давідавічы, пошта Рыбалы.**

**(Працяг са стар. 9)**

### НАЙПРЫГАЖЭЙШАЯ ПАРА

пер прадоўжым урок. Што можна ўлетку яшчэ рабіць? Хто скажа? Ніна.

— Ну, купацца можна, загараць. І кветкі на лузе збіраць.

— Вельмі добра. А восень хто любіць? Марынка. Скажы.

— Восень таксама прыгожая і багатая. Грыбы тады будуць у лесе. Арэхі. Даспеюць яблыкі і грушы. Бульбу будзем капаць. Я вельмі люблю бульбу з пяпялішча.

І зноў дзеці зашумелі. Настаўніца адчакала і кажа:

— Так, дзеткі. Многа ўжо вы ведаеце. Вельмі рада за вас. Толькі ведайце адно: кожная пара года па-свойму прыгожая. Толькі трэба ўмець гэта бачыць і карыстацца. І зіма, бо здаровая, і вясна, бо прыгожая. І цёплае лета. І багатая восень. І ўсё гэта, дзеткі, для вас. Каб толькі здаровы былі і ў свеце мір. Дык хопіць. Вось ужо і званок. А дома напішаце ў сшыткі аб найпрыгажэйшай пары года. На ацэнку.

Да заўтра. Бывайце.

**Рыгор Мароз**

## Вясёлы куточак

* ✲ *

**— Дзе знаходзіцца Індыя? — пытае настаўніца.**

**— На глобусе, — адказвае вучань.**

* ✲ *

**— Тата, калі да двух дадаць тры, будзе пяць?**

**— Вядома.**

**— Дык чаму тады настаўніца ставіць у сшытку два і тры. Што яна, дадаваць не ўмее?**

* ✲ *

**Механік доўга аглядае аўтамашыну і не можа знайсці галоўную прычыну пашкоджання. Машына ж вельмі ўжо старая. Нарэшце ён глянуў на шафёра, пакруціў галавой ды кажа:**

**— Каб гэта быў конь, я ведаў бы, што з ім трэба зрабіць.**

**— Што?**

**— Зарэзаць.**



## Паглыбляй  свае веды



### ТАНЕЦ ЛЕЧЫЦЬ ДЗЯЦЕЙ

Медыкі педыятрычнай бальніцы імя Артура Абалі ў сталіцы Кубы вось ужо больш як 10 гадоў прымяняюць новы метад лячэння дзяцей, у развіцці якіх назіраюцца тыя ці іншыя адхіленні ад нормы. Ён заснаваны на спалучэнні псіхіятрыі з танцам. Методыка гэтага новага віду лячэння была створана пры непасрэднай дапамозе артыстаў нацыянальнага балета.

У танцавальных класах дзеці пад кіраўніцтвам вопытных балетмайстраў займаюцца пластыкай, пантамімай, музыкай, драматычнымі кампазіцыямі. Калектыўная форма заняткаў таксама мае немалаважнае значэнне. Такі від лячэння дапамагае дзецям набыць упэўненасць у сабе.

### СЛАНЫ-РАЗБОЙНІКІ

Жыццё землеробаў у многіх раёнах інданезійскага вострава Суматра стала ў апошні час невыносным. Пасевы на палях і насаджэнні на плантацыях знішчаюцца, дарогі затоптваюцца, сялянскія хаціны разносяцца ў трэскі. Трапічныя ўраганы тут ні пры чым, „разбойнічаюць“... сланы. Тыя, якіх чалавек выцесніў з прывычных месцаў пражывання, паняволі перабіраюцца карміцца на палі.

Нягледзячы на забарону, сялянам даводзіцца адстрэльваць чатырохногіх „граміцеляў“. А на сусветным рынку за жывога слана даюць ад 20 да 25 тысяч долараў. Таму інданезійскія ўлады вырашылі пашырыць экспарт гігантаў, каб выратаваць іх ад знішчэння.

### ЧАМУ ГАРА КАСЦЮШКІ?

Найвышэйшая гара Аўстраліі носіць назву Гара Касцюшкі — Монт Касцюшка. Першым еўрапейцам, які ўвайшоў на гэту гару і даў ёй такую назву быў польскі падарожнік Павел Эдмунд Стшэлецкі. У Аўстралію ён прыехаў у 1839 годзе, а ўваход на найвышэйшую гару Аўстраліі апісваў так:

„15 лютага 1840 года каля поўдня я аказаўся на вышыні 6510 стоп (2230 метраў) над узроўнем мора і сеў на вечны снег. Нада мною было яснае неба, а ніжэй бяскрэсны від на тэрыторыю больш 7000 квадратных міляў. Гэтая скалістая і голая верхавіна, якая ўзносіцца над усімі іншымі гарамі, прадстаўляе сабой найлепшы наглядальны пункт, з якога можна зрабіць поўны агляд складанага рэльефу ваколіцы. Асаблівы выгляд верху гары зрабіў на мяне ўражанне сваім моцным падабенствам да копца Касцюшкі ў Кракаве, насыпанага ў гонар нацыянальнага героя Касцюшкі, што хоць і ў чужой краіне, але сярод людзей, якія шануюць свабоду і яе бароняць, я не мог устрымацца ад таго, каб не надаць назвы Монт Касцюшка.“

## Пазнаёмімся

СССР, 347600, Ростовская обл., г. Сальск, ул. Социалистическая, 10. Шевченко Лене. 7 клас.

* ✲ *

СССР, Ростовская обл. г. Шахты, ул. Рощева, 27. Голенкову Олегу. 4 клас.

* ✲ *

СССР, 150061, г. Ярославль, Мурманский проезд, 10, кв. 37. Криулиной Наташе.

* ✲ *

СССР, 163061, г. Архангельск, проспект Советских Космонавтов, 118, кв. 19. Хромовой Лене. 4 клас.

* ✲ *

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Загорского, I. Кушнеровой Галине. 7 клас.

* ✲ *

СССР, 346555, Ростовская обл. г. Шахты, ул. Ленина, 13, кв. 43. Пономарёвой Кате.

* ✲ *

СССР, 301254, Тульская обл., Одоевский район, совхоз Рылёвский. Чирикиной Ире. 4 клас.

* ✲ *

СССР, 346510, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Большая, 23. Рохлиной Ире. 7 клас.

* ✲ *

СССР, 150061, г. Ярославль. ул. Громова, 26, кв. 122. Маркеловой Юле и Кутенёвой Свете. 6 клас.

* ✲ *

СССР, 163061, г. Архангельск, ул. Выучейского, 35, кв. 8. Курицыной Марине. 4 клас.

* ✲ *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. К. Лібкнехта, 106, кв. 63. Наташа Ірадоўская, 4 клас.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 3-А, кв. 12. Максім Максімаў, 4 клас.

* ✲ *

БССР, 220079, г. Мінск-79, 2-гі Загарадны пер., 1-А, кв. 2. Оля Плахотнікава, 5 клас.

* ✲ *

БССР, 220079, г. Мінск-79, 2-гі Загарадны пер. 1 А, кв. 2. Ліда Плахотнікава, 3 клас.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 9, кв. 119. Аксана Баганосава, 5 клас.

* ✲ *

СССР, 344080, г. Ростов-на-Дону, ул. Российская, 28а, кв. 90. Понюшкиной Светлане. Дзяўчынка вучыцца ў чацвертым класе.

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



**Дапамажы каміняру дайсці да коміна.**



**Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950 Białystok ul Wesołow...**

# ХТО БУДЗЕ ТРЭЦІМ?

Мы з жонкай пражылі разам тры гады. Гэта ж трэба! Тыдзень назад адвёз я яе ў радзільны дом. А пасля гэтага штодзень прыходжу туды і з боязю і хваляваннем пытаюся, што чуваць. Дзесьці праз сем дзён, на восьмы, чую... Тройню, гавораць, нарадзіў... Мне рантам стала блага. Ачуняў крыху і тлумачу: я такога не чакаў. А мне адказваюць, што гэта вельмі добра — тройня: хлопчык і дзве дзяўчынкі. А я і пытаюся, быццам не чуючы: „А ці нельга атрымаць толькі аднаго хлопчыка?". „Вы што, жартуеце!" — абурыўся ўрач і пайшоў па калідоры, нават не агледзеўшыся.

Я стаю і разважаю. Калі тройня, — дык значыць, кватэру дадуць адразу, без чаргі. Памеркаваў я гэтак, і ў маёй галаве акрэсліўся цікавы план. Ура! Бяру тройню. Адну дачку цешчы, другую — маці. А жонка няхай сына гадуе. Як быццам атрымліваецца няблага. Дайце, гавару, на тройню сваю гляну. А медыцынскія сёстры — у смех. Я пакрыўджана ім тлумачу, што тут не да жартаў. Яны і перасталі смяяцца. А ў гэты час выходзіць галоўны ўрач і віншуе мяне з нованароджанай дачкой. „Не тлуміце мне галаву, — кідаю я яму. — Віншуйце адразу з усімі трыма". Ён нешта прашаптаў сабе пад нос, паварнуўся і пайшоў. Медсёстры мяне віншуюць, але чамусьці не з тройняй, а з першым красавіка.

**К. Міцін**







Сонечная перспектыва

З „Весніка Задрыпопіі"

## СЕРВІС ПАЛЯПШАЕЦЦА

Ідучы насустрач пажаданням кліентаў, працаўнікі службы таксі ўвялі новую форму абслугоўвання насельніцтва. Цяпер выклікаўшы таксі абанент, ведаючы нумар машыны і канцавы маршрут папярэдняга выкліку, выязджае насустрач грамадскім відам транспарту, чым эканоміць час свой і вадзіцеля.

## АБВЕСТКА

У нас багаты выбар грубых слоў. Выбірайце грубыя словы.

## МОЖНА БЫЛО Б...

Назіраючы за дзедам-удаўцом, што якраз развешваў бялізну на двары, суседка звяртаецца да яго:

— Вы, дзеду, ажаніліся б ці што. Усё была б палёгка.

— Я, можа б, і не супраць, але ж у нашай вёсцы няма падыходзячых маладак, а ў Бабікутаўку я не дайду.

## НЕ ЗБЯГАЕЦЦА

— Мабыць, дождж будзе, бо нешта пазяхаецца.

— Але ж ты і ўчора пазяхаў, а дажджу не было.

— Ты ж ведаеш, што цяпер пагода капрызная — з прагнозам і то не збягаецца.



Ён усё атрымлівае па знаёмству, нават апладысменты.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Мільянер стукае ў вароты раю. Святы Пётр пытае ў яго:

— Чым ты заслужыў, што так рвешся сюды?

— Я двойчы памог беднякам, — адказвае мільянер. — Аднаму даў долар, а другому — пяцьдзесят цэнтаў.

— Пачакай трошкі, — гаворыць святы Пётр і знікае за брамай. Праз хвіліну мільянер чуе голас святога Пятра:

— Вярніце яму яго паўтара долара і пашліце да д'ябла.

*

Перад уваходам ва універмаг жонка гаворыць мужу:

— Пойдзеш са мной, ці хвілінку пачакаеш тут?

— Калі табе ўсё роўна, — адказвае муж, — то я пайду ў кіно насупраць.

— Добра, толькі адразу ж пасля першага сеанса выходзь, каб мне не давялося цябе чакаць.

*

— Мікола, ты ж таксама не любіш адзінкі? — пытае бацька сына-пяцікласніка.

— Не, чаму ж, тата. Люблю... калі гэта рублі.

## ТАННА І СПАКОЙНА

Сустрэліся задрыпанцы.

— Ты пахудзеў, збляднеў, аброс, нікуды не ходзіш... Што ты робіш цэлымі днямі?

— Пішу раман.

— Ну і дзівак! Навошта гэтак мучыцца, калі за сто злотых можна купіць гатовы?!

## ПАЛЯЎНІЧЫ

— Пайшоў неяк я ўзімку на зайца. І, як заўсёды, узяў з сабою вернага сябра — Рэкса. Аблазілі мы з ім усе палі і карчы, а зайца нідзе не бачылі.

Вырашыў я вярнуцца дадому. Брыдзем з Рэксам па заснежаным полі. І раптам я такі ўбачыў зайца. Ну, вядома, Рэкс стаміўся і зайца не прыкмячае. Тады я крычу:

— Рэкс, заяц!

А Рэкс як падскочыць:

— Дзе?!





З чаго смяюцца суседзі.







## ГОЛЫЯ ФАКТЫ

Мноства жанчын робіць свой бізнес на прыгажосці свайго цела. Колькі з іх вымушаны гандляваць сабою ў пацешных прытонах, дамах распусты. Дзялкі робяць на гэтым свой вялікі бізнес. У амерыканскім штаце Нью-Джэрсі тузін „свабодных" жанчын з горада Маунт-Эфрэйм пагадзіліся не хаваць у прытоне са сваімі ганебнымі занятакамі, а дзейнічаць зусім адкрыта. Яны танцавалі ў „натуральным выглядзе" перад наведвальнікамі... кнігагандлёвага магазіна. Мясцовы суд прызнаў гэта амаральным. Абураныя кнігагандляр і целагандляркі, якія ўбачылі ў рашэнні суда ўшчымленне сваіх правоў звярнуліся ў вярхоўны суд ЗША. І там было вынесена ўсемагутнае рашэнне: забарона выконваць танцы ў голым выглядзе з'яўляецца парушэннем першай папраўкі да канстытуцыі дзяржавы, якая гарантуе свабоду самавыражэння...

## АБ'ЯВА

„Вы плануеце ў бліжэйшы час рабаўніцтва банка? Мы прадставім вам простую, але эфектыўную праграму, з дапамогай якой і наогул камп'ютэра „Коммадорэ" ваша праблема будзе вырашана"...

(Заходнегерманскі часопіс „МК" („Мікракамп'ютэр")





Раней чым увайсці ў кабінет дырэктара, пастукайце пліткай шакаладу па стале сакратаркі.